Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№6 (4652) 10 лютага 2012 г.

**Віншаванне ўдзельнікам XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу**

*Дарагія сябры!*

Сардэчна вітаю вас з адкрыццём XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

У Рэспубліцы Беларусь 2012 год абвешчаны Годам кнігі і закліканы папулярызаваць нацыянальную літаратуру. Сімвалічна, што ён супаў са 130-гадовым юбілеем з дня нараджэння беларускіх класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Іх творы не толькі ўзвялічваюць нашу Радзіму, але і да гэтай пары моцна ўплываюць на душы людзей, на іх самасвядомасць.

Мы бачым, наколькі вялікая ў краіне цікавасць да друкаванага слова. Упэўнены, што гэты форум надасць новы імпульс развіццю айчыннага кнігавыдання, наблізіўшы беларускую літаратуру да замежнага чытача.

За час свайго існавання выстаўка-кірмаш ужо стала знакавай падзеяй у духоўным жыцці нашай дзяржавы. Яе па праве можна назваць маштабным аглядам дасягненняў выдаўцоў розных краін і аўтарытэтнай пляцоўкай для абмену вопытам прафесіяналаў.

Зычу ўсім удзельнікам гэтага мерапрыемства плённай працы, узаемаразумення, натхнення і аптымізму.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

## 205 год з дня нараджэння Напалеона Орды



**Раіса БАРАВІКОВА**

### Да графічных малюнкаў Напалеона Орды

*Застылі дрэвы ў вечным карагодзе.*
*Я ў нейкі міг задам пытанне ім:*
*чаму не нарадзілася ў стагоддзі*
*тым самым, што было калісь Тваім?*

*Нас бы адна вяла любоў і вера,*
*і там, дзе мур стары трывожыць бэз,*
*мой верш сагрэў бы сэрца касінера,*
*і ў твой бы папрасіўся паланэз.*

*Які не для мяне гучаў, напэўна,*
*каб рэхам заміраць пасля ў лясці…*
*Але злiецца дух мой з даллю спеўнай,*
*куды ўжо не дабегчы, не дайсці.*

*Парыў душы тугой гады праніжа*
*і ляжа сном на цяжкіх дзён асцё:*
*Ты — тут. Ты — побач. Сонца над Нясвіжам.*
*І ў неба шле свой чысты звон касцёл…*





# Свет праз прызму кнігавыдання

**З 8 па 12 лютага на пляцоўках БелЭкспа прадстаўлены лепшыя ўзоры прадукцыі выдаўцоў многіх краін свету. Сёлета ў XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы бяруць удзел больш як 600 экспанентаў з 20 дзяржаў. Ганаровы госць свята — Баліварыянская Рэспубліка Венесуэла, спецыяльны госць — Арменія, якая святкуе ў 2012-м 500-годдзе нацыянальнага кнігадрукавання.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

Традыцыйна адзін дзень работы форуму прысвячаецца Расійскай Федэрацыі — яго пастаяннаму ўдзельніку. “Паказаць культуру, навуку, вытворчасць праз прызму кнігавыдання і падкрэсліць еднасць культур, духоўную роднасць нашых народаў” — так сфармуляваў свае намеры расійскі бок. Да гэтых слоў могуць далучыцца прафесіяналы кніжнага бізнесу з такіх краін, як Куба, Таджыкістан, ЗША, Італія, Славакія, Ізраіль, Малдова, Украіна, Германія, Францыя, Іран і іншыя ўдзельнікі мінскага форуму.

На яго ўрачыстым адкрыцці прысутнічалі першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, прадстаўнікі Нацыянальнага Сходу, Урада Рэспублікі Беларусь, дэлегацыя Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Амерыка Дзіасам Нуньесам, кіраўнікі дыпламатычных місій, прадстаўнікі міністэрстваў культуры і адукацыі Беларусі.

Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі адзначыў, што кніжная выстаўка-кірмаш — выдатная пляцоўка для прапаганды кнігі, і выказаў спадзяванні, што абмен вопытам і ведамі паміж удзельнікамі форуму будзе спрыяць інтэлектуальнаму прагрэсу ва ўсім свеце.

Аляксандр Радзькоў зачытаў прывітальны адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, дзе Кіраўнік краіны падкрэсліў увагу да пытанняў падтрымкі кніжнай культуры.

Спадар Нуньес выказаў вялікую падзяку Беларусі за запрашэнне Венесуэлы ў якасці ганаровага госця форуму: “Гэта вялікі гонар для нашай краіны і вялікая павага да яе культуры”. Спадар пасол адзначыў, што Венесуэла пачынае распаўсюджваць мільёны бясплатных кніг для павышэння культурнага ўзроўню бедных слаёў насельніцтва, якія раней не мелі магчымасці далучыцца да гэтай каштоўнасці.

Спецыяльна да сёлетняй выстаўкі-кірмашу ганаровы госць свята падрыхтаваў выданне фотаальбома пра Венесуэлу (пераклад быў зроблены ў снежні мінулага года ў Беларусі, альбом выйшаў у студзені).

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, аналізуючы склад удзельнікаў мінскага форуму, засведчыў: “Нягледзячы на тое, што тэрытарыяльна мы іншы раз далёка, мы вельмі блізкія па духу”, выказаў надзею на тое, што “глабалізм слова зможа прывесці да рашэння ўсіх праблем мірным шляхам”, і заклікаў: “Пісьменнікі ўсіх краін, яднайцеся!”

Права перарэзаць чырвоную стужку было даручана міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алегу Праляскоўскаму і Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ў Рэспубліцы Беларусь Амерыка Дзіасу Нуньесу.

XIX Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш абяцае шмат прыемных сюрпрызаў, цікавых сустрэч і абавязкова будзе мець працяг, упэўнены арганізатары свята.

***На здымку: Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Венесуэлы ў Беларусі Амерыка Дзіас Нуньес і міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алег Праляскоўскі падчас урачыстага адкрыцця выстаўкі.***

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла з гадавінай інтранізацыі. "Ваша падзвіжніцкае служэнне стала ўзорам бесперапыннага духоўнага ўдасканалення, — адзначаецца ў віншаванні. — Вы заўжды з асаблівай увагай і бацькоўскім клопатам ставіцеся да Беларусі. Мы глыбока адчуваем і цэнім Вашу сяброўскую падтрымку і пастырскую любоў".

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Віктара Саркісьяна з 65-годдзем. Кіраўнік дзяржавы адзначыў вялікі талент і віртуознае валоданне тэхнікай танца, якія дазволілі артысту стварыць незабыўныя вобразы ў балетных спектаклях, а таксама дзейнасць юбіляра ў якасці балетмайстра-пастаноўшчыка і выхавальніка творчай моладзі.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста РСФСР Льва Лешчанку з 70-гадовым юбілеем. "Мы цэнім Вас як выдатнага спевака, неадназразова ўдзельніка Міжнароднага фестываля мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", які сваёй шматграннай дзейнасцю садзейнічае развіццю культурных сувязей брацкіх народаў", — сказана ў віншаванні.

✔ Міністр культуры Беларусі Павел Латушка ўзяў удзел у рабоце калегіі ўпраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама "Аб выніках работы ўстаноў культуры вобласці ў 2011 годзе і задачах на 2012 год". На пасяджэнні была засяроджана ўвага на рэалізацыі дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2011—2015 гады, а таксама абмеркаваны пытанні захавання і развіцця рэгіянальнай культуры.

✔ У рамках падрыхтоўкі праекта "Беларускія пісьменнікі дзецям" у Літаратурным музеі Петруся Броўкі будзе сфарміраваны "Клуб юных літаратараў". Ажыццяўленне праекта дасць магчымасць пачаткоўцам праявіць творчыя сілы, паказаць талент, пазнаёміцца з цікавымі людзьмі, сустрэць новых сяброў.

✔ Беларускія клубы ЮНЕСКА далучыліся да міжнароднага руху па абмене кнігамі — буккросінгу. Першая "свабодная паліца", куды можна прынесці кнігі, а таксама выбраць новую літаратуру, адкрылася ў офісе Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА" ў Мінску. Кнігі, зарэгістраваныя для ўдзелу ў буккросінгу, будуць пасля прачытання пакідацца ў грамадскім транспарце, парках, кавярнях, на прыпынках, каб з іх зместам маглі пазнаёміцца як мага больш чытачоў.

✔ Адзіная ў Беларусі абласная газета для людзей сталага ўзросту "Гомельский пенсионер" з ліпеня набывае міжнародны статус. Яна будзе выходзіць на тэрыторыі чатырох краін — Беларусі, Расіі, Украіны і Казахстана — пад назвай "Пенсия Плюс". Гэта сведчыць пра вялікую папулярнасць выдання, якое амаль цалкам пабудавана на пісьмах чытачоў.

✔ Выстаўка-прэзентацыя карцін і кніг "Колер у горадзе" беларускай мастачкі Ларысы Нуры-Шакінко, якая цяпер жыве ў Францыі, адбылася ў Цюрыху. Яна была арганізавана па ініцыятыве дырэктара французскага культурнага цэнтра ў Цюрыху Мішэль Альт.

**Падрыхтавала**
**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Аляксей Вараксін:

# «Мая задача — аб'яднаць творчы пачатак з камерцыйным»

**Вядомы кнігавыдавец Аляксей Вараксін зусім нядаўна паўстаў перад айчыннымі літаратарамі ў новай іпастасі — дырэктара Беларускага літаратурнага фонду. Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі ўскладае на гэтае прызначэнне вялікія спадзяванні.**

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**— Аляксей Мікалаевіч, перад вамі стаіць сур'ёзная задача па развіцці Беллітфонду. Што ж вам надае аптымізму?**

— Да мяне дырэктарскую пасаду ў Беллітфондзе займалі альбо літаратары, альбо адміністратары, далёкія ад кнігавыдання і кнігагандлю. А я ўжо гадоў дваццаць, практычна ўсё асэнсаванае жыццё, займаюся кнігавыдавецтвам як камерсант. Думаю, мне ўдасца зарабіць для літфонду грошы, якіх пакуль што ў яго няма.

**— Стоп, давайце па-парадку! Пра тое, што Беларускі літаратурны фонд існуе, у пісьменніцкім асяроддзі ведае, пэўна, кожны. А вось у чым сутнасць гэтай арганізацыі? Многія ўпэўнены, што фонд — своеасаблівая дабрачынная каса для літаратараў, куды ў цяжкіх жыццёвых абставінах можна і трэба звяртацца па грашовую дапамогу.**

— Сапраўды, фонд арыентаваны на дапамогу літаратарам, у тым ліку і на матэрыяльную. Аднак гэта не адзіны кірунак дзейнасці. У першую чаргу я б усё ж такі сказаў, што задача фонду — стымуляцыя новых і класічных кірункаў у сферы літаратуры. І магчыма, не толькі літаратуры, але і іншых відаў творчасці, ва ўсялякім выпадку, смежных. Рэалізацыя сур'ёзных культурных праектаў часта не прыносіць камерцыйнага поспеху. Ёсць такія працы, якія абавязкова павінны быць выдадзены, каб хаця б патрапіць у бібліятэкі. Але вялікім тыражом іх выдаваць не мае сэнсу, бо яны — у сферы цікавасці абмежаванага кола. Сярэднестатыстычны выдавец не рызыкне ўзяцца за такі праект. Вось тут і павінен выступіць на першы план Беллітфонд.

**— Не хочацца неяк згаджацца з тым, што сапраўдная, сур'ёзная літаратура не мае шанцаў выклікаць цікавасць у шырокіх чытацкіх колах…**

— Безумоўна мае, калі будзе правільна прадстаўлена выдаўцом. У рамках дзейнасці Беллітфонду хацелася б адкрыць серыю добрай мастацкай (і не толькі) літаратуры, якая зможа прынесці прыбытак. У маім выдавецкім партфелі ёсць цудоўныя рукапісы, якія, выдадзеныя пэўным тыражом, будуць прадавацца, будуць выклікаць інтарэс як у чытача, так і ў гандлёвых арганізацый. Як дырэктар Беллітфонду бачу сваю задачу ў тым, каб аб'яднаць творчы пачатак з камерцыйным у нейкай аптымальнай эфектыўнай форме.

**— Аднак каб "запусціць" любы, нават самы ўдалы праект, павінны мецца першапачатковыя сродкі. У фондзе сёння іх практычна няма. Вы разлічваеце на спонсарскую дапамогу?**

— Безумоўна, нам хацелася б знайсці спонсараў, і мы будзем іх шукаць. Аднак не трэба забываць, што дабрачыннасць будзе рэальна настолькі, наколькі будуць створаны механізмы стымулявання гэтай дабрачыннасці. Вопыт некаторых краін паказвае, што буйныя прадпрыемствы і салідныя арганізацыі даволі ахвотна ахвяруюць на патрэбы культуры, калі пры гэтым яны вызваляюцца ад часткі падаткаў. У нас пакуль такіх законаў няма. І мы вымушаны ісці па нейкіх іншых шляхах. Ну вось, напрыклад, у Год кнігі мы збіраемся разаслаць лісты некаторым арганізацыям з прапановай выдаць пра іх кнігу. Добра, калі буйное прадпрыемства мае такую рэкламную рэч. Яны зробяць заказ, мы яго добрасумленна выканаем. І вынікам стане якасны кніжны прадукт, які можна будзе дарыць партнёрам, у тым ліку і замежным, распаўсюджваць на нейкіх юбілейных святах… Бачыце, сёння фонд бярэцца за не зусім уласцівыя яму функцыі — ён бярэцца зарабляць. А ў ідэале ён павінен акумуляваць спонсарскую дапамогу, накіроўваючы сродкі на выданне сур'ёзнай літаратуры, на культурныя мерапрыемствы, матэрыяльную дапамогу. Ва ўсялякім разе, не трэба губляць аптымізму.

## Прынятыя ў СПБ



**Курылік (Локтыш) Святлана Ануфрыеўна**
*Паэт*

Нарадзілася 20 мая 1971 года ў в. Люсіна Ганцавіцкага раёна. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе адказным сакратаром ганцавіцкай раённай газеты "Савецкае Палессе". Друкавалася ў часопісах "Таспадыня", "Маладосць", у газетах "Літаратура і мастацтва", "Заря", "Савецкае Палессе" і іншых. Аўтар зборніка вершаў "Вышыванка" (2008). Нізка вершаў увайшла ў кнігу "Паміж Бобрыкам і Ланню. Ганцаўшчына літаратурная" (2007).



**Кобец Марыя Уладзіміраўна**
*Паэт*

Нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў в. Валішча Пінскага раёна. Працуе дырэктарам Валішчанскага Дома культуры. Вершы друкаваліся ў "Пінскім весніку", "Заре", "Народнай газеце", "Літаратуры і мастацтве", часопісах "Маладосць", "Алеся". У 2011 годзе выйшаў зборнік вершаў "Кроплі".



**Канопліч Наталля Мікалаеўна**
*Публіцыст*

Нарадзілася 2 студзеня 1961 года ў в. Мокіш Хойніцкага раёна. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Працуе ў рэдакцыі Мазырскай раённай газеты "Жыццё Палесся". У 2009 г. выдала кнігу нарысаў "Выпрабаванне мужнасцю". У 2010 годзе аўтарка стала лаўрэатам шостага нацыянальнага конкурсу "Залатая Ліцера".



**Малянкова-Куляшова Вольга Сяргееўна**
*Паэт*

Нарадзілася 22 лютага 1989 года ў г. Магілёве. Скончыла Магілёўскі дзяржаўны каледж імя А. С. Пушкіна. Вучыцца ў інстытуце парламентарызму і прадпрымальніцтва. Друкавала вершы ў газетах "Зямля і людзі", "Прыдняпроўская ніва", "Веснік Магілёва". Аўтар кнігі "Перо и порох". У 2011 годзе ў абласным літаратурным конкурсе "Первый в космосе" ў намінацыі "Паэзія" заняла першае месца.

## Вынікі

Ірына ТУЛУПАВА

# Ініцыятыва ды інавацыі

**Паводле міністра культуры Рэспублікі Беларусь Паўла Латушкі, менавіта гэтыя два словы вызначаць самае галоўнае ў развіцці сферы ў бліжэйшай перспектыве.**

Выніковая калегія Міністэрства культуры "Аб развіцці сферы культуры ў 2011 годзе і прыярытэтах на 2012 год" праходзіла ў Філармоніі для дзяцей і юнацтва — канцэртнай зале "Верхні горад", што не так даўно гасцінна расчыніла дзверы ў гістарычным цэнтры Мінска. Акрамя ўсяго, гэта і свайго роду музычны цэнтр: непадалёк Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, Дзіцячая музычная школа № 10 імя Глебава, дом, дзе правёў свае дзіцячыя ды юнацкія гады выбітны кампазітар Станіслаў Манюшка.

На калегіі адзначана: у краіне створаны ўнікальныя кампазітарская і выканальніцкая школы. Беларускія музыканты-выканаўцы паспяхова ўдзельнічаюць у самых прэстыжных міжнародных конкурсах. Хаця музычнае, харэаграфічнае і эстраднае мастацтва патрабуюць да сябе яшчэ большай увагі.

Але гэта — толькі адзін з разгледжаных кірункаў. Мінулы год стаў першым у рэалізацыі праграмы "Культура Беларусі" і меў шмат здабыткаў. Станоўчыя напрацоўкі знойдуць свой працяг і сёлета.

Так, упершыню ў 2012 годзе запланавана: вызначэнне на конкурснай аснове лепшага прыкладу аховы гісторыка-культурнай спадчыны; правядзенне першай Усебеларускай выстаўкі сучаснага мастацтва ў Мінску; першага нацыянальнага музейнага фестывалю ў Беларусі (ён пройдзе ў Гродне); першага Беларускага фестывалю аматарскага цыркавога мастацтва ў Гомелі.

У міністэрстве думаюць таксама пра неабходнасць заснавання фестывалю фальклору, які б "вандраваў" па абласных цэнтрах, а потым фіналам завяршыўся ў Мінску.

Што да музейнай справы, то па даручэнні Кіраўніка дзяржавы цяпер ствараюцца: Музей сучаснай беларускай дзяржаўнасці, экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея, Палацава-паркавага ансамбля ў Нясвіжы. Уводзяцца ў дзеянне іншыя музейныя ўстановы.

З цікавых прыкладаў арганізацыі музейнай справы былі названыя прыватная ініцыятыва стварэння музея гумару ў Калінкавіцкім раёне, адкрыццё прыватнага музея рыцарства ў Полацку, стварэнне музея дарог у Старых Дарогах.

Першая Усебеларуская выстаўка сучаснага мастацтва стане працягам серыі маштабных выставачных праектаў. Як паведаміў Павел Латушка, летась у Беларусі былі прадпрынятыя значныя намаганні для развіцця выяўленчага мастацтва. Міністэрства закупіла працы мастакоў на суму амаль у 830 млн. рублёў. Разам з тым, існуе небяспека, што праз гадоў 10 — 15, калі ў рэгіёнах іх не будуць закупляць, краіна рызыкуе згубіць цэлы культурны пласт, а праз 50 гадоў выстаўку мастакоў пачатку XXI ст., прыкладам, віцебскай школы жывапісу, правесці будзе немагчыма: проста не будзе з чаго.

Што да тэатраў, то выявілася іншая тэндэнцыя. Да прыкладу, у Нацыянальнай тэатральнай прэміі з 12 спектакляў-намінантаў удзельнічала толькі два спектаклі па творах айчынных аўтараў. Што сведчыць пра неадпаведны ўзровень работы тэатраў з беларускім матэрыялам, а значыць, патрабуе ўдасканалення.

Падкрэслівалася таксама, што для тэатральнага мастацтва праблемай з'яўляецца падрыхтоўка рэжысёрскіх кадраў. Таму міністр звярнуўся да кіраўнікоў абласных і Мінскага гарадскога ўпраўленняў культуры, рэспубліканскіх тэатраў звярнуць асаблівую ўвагу на пастаноўкі спектакляў маладымі рэжысёрамі, выпускнікамі Акадэміі мастацтваў.

Частка выступленняў прысвячалася прапагандзе беларускай мовы як аднаму з важнейшых складнікаў айчыннай культуры і фарміравання яе этнічных рыс. Адной з асноўных задач Міністэрства культуры лічыць захаванне роднай мовы і стварэнне належных умоў для яе далейшага развіцця і папулярызацыі. Цалкам лагічна, паводле слоў Паўла Латушкі, што ўстановы культуры, асабліва якія маюць статус "Нацыянальны", павінны паказваць прыклады ў гэтым кірунку.

Наперадзе нас чакае праца над стварэннем Кодэкса аб культуры, які павінен быць уведзены ў дзеянне ў 2015 годзе. Канцэпцыя Кодэкса вынесена на грамадскае абмеркаванне.

Літабсягі

# Наталенне паэзіяй

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**У рамках акцыі "Літаратурны чацвер" у краме № 13 "Белсаюздруку" паэт Юрый Сапажкоў прадставіў наведвальнікам часопіс "Нёман", у якім ён працуе, а таксама кнігі — уласныя і сваіх калег.**

Бывае так, што бездакорна зарыфмаваны і старанна "падаганы" па рытме верш сэрца не кранае, бо не ўтрымлівае ніякіх пачуццяў. Лірыка Юрыя Сапажкова — вытанчаная "страва" для аматараў сапраўднай сенсорыкі і глыбокіх філасофскіх роздумаў. А яшчэ — для тых, хто цэніць трапны выраз, яркае параўнанне, можа адчуць і ацаніць паэтычны гукапіс. Лепш за ўсё пра паэта расказваюць яго творы. Добра разумеючы гэта, Юрый Міхайлавіч большую частку свайго выступлення аддаў менавіта чытанню вершаў. І гэта "спрацавала". Людзі, якія ў паўсядзённай мітусні, здаецца, выкраслілі паэзію са свайго жыцця, адкрываліся раптоўнай сустрэчы з паэзіяй і — пачыналі ўбіраць яе ў сябе, наталяючыся, нібыта жывой вадою.

І што, здаецца, нам, з нашымі праблемамі і заклапочанасцю да дзівакаватай дзяўчыны з вуліцы Каменная, якая "скамянела" сэрцам без сапраўднага кахання? Ці то да кранальнага клубочкавожыка, да якога прывязваецца адзінокі чалавек? Прывязваецца, хаця і разумее: зверанё не адкажа гаспадару ўзаемнай прывязанасцю, а ўзятае з лесу на доўгі тэрмін, больш ужо не здолее выжыць у прыродзе. І нават да храма Тадж-Махал, узведзенага індыйскім правіцелем у памяць пра памерлую каханую — што нам за справа? Але паэт прымушае суперажываць — і чытач глядзіць на навакольны свет ужо зусім іншым позіркам: глыбінным,назіральным, спачувальным.

Няхай сціплая крама не ператварылася падчас чытання вершаў у паэтычны тэатр — нешта, напэўна, зварухнулася ў душы кожнага, хто ў гэты дзень завітаў сюды.

Можна без перабольшання сказаць, што Юрый Сапажкоў — твар часопіса "Нёман". Яркі творца, выдатны перакладчык, ён незвычайна патрабавальны да літаратуры, але найбольшую патрабавальнасць прад'яўляе да сябе самога, шліфуючы кожны радок напісанага, бязлітасна адмятаючы тое, што падаецца няшчырым, вычварным, імгненным. Калі такі творца сапраўды раіць нешта прачытаць ці нават набыць, варта скарыстацца парадай. А Юрый Міхайлавіч прапанаваў выдатную паэму Халіля Джэбрана "Прарок", перакладзеную ім самім на рускую мову (упершыню!). І прадставіў патэнцыяльным пакупнікам зборнікі перакладной замежнай літаратуры, зробленыя на аснове публікацый у часопісах "Всемирная литература" і "Нёман".



Дарэчы, "Нёман" стаў стартавай, "пробнай" пляцоўкай для выдання цэлага шэрагу кніг РВУ "Літаратура і Мастацтва". З мэтай выявіць чытацкія прыхільнасці ўсім жадаючым прапануецца ўзяць удзел у галасаванні за лепшы твор кожнага нумара часопіса "Нёман" на сайце: **http://www.neman.lim.by.**

Артлінія

# Класіка маладзее!

**Новы міжнародны праект Беларускай дзяржаўнай філармоніі будзе знаёміць мінскую публіку з маладымі зоркамі акадэмічнага выканальніцтва, якія неаднаразова вылучаліся на прэстыжных музычных конкурсах, набылі ўжо сусветную вядомасць і з поспехам выступаюць у канцэртных залах розных краін перад самай патрабавальнай публікай.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

Тое, што мы самі часам недаацэньваем, дапамагаюць заўважыць нашы госці. Менавіта яны, замежныя выканаўцы і педагогі, звяртаюць сваю захопленую ўвагу на ўнікальную традыцыю Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў выхаванні новых пакаленняў музыкантаў. У якой яшчэ краіне зусім юныя выканаўцы маюць магчымасць для творчага супрацоўніцтва з вядучымі дзяржаўнымі мастацкімі калектывамі: выступаць на галоўнай канцэртнай сцэне ў публічных канцэртах поруч з майстрамі — проста неверагодна! — нічога за гэта не плацяць? Дзякуючы даўняму абанементу БДФ "Іграем з аркестрам" дзясяткі талентаў набылі неацэнны практычны досвед, узышлі на зорную вышыню як салісты, артысты аркестраў, камерных ансамбляў — на радзіме і за межамі Беларусі.

Расійскі дырыжор Яўген Бушкоў, які ўжо некалькі сезонаў ажыццяўляе ў нас мастацкае кіраўніцтва Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі, убачыў у філармоніі патэнцыял не толькі для падтрымкі таленавітых дэбютантаў і навучэнцаў, але і для папулярызацыі выканальніцкай творчасці не той моладзі, якая "ідзе", а той, што патрапіла ўжо на музычны Алімп і ўзыходзіць да яго вяршыні. Гэта ўжо суперартысты, перад якімі адчыненыя лепшыя залы свету. І новы праект, распачаты дзякуючы ініцыятыве маэстра, так і назвалі: "Зоркі, якія ўзыходзяць". Сёлета камерны аркестр плануе канцэрты з удзелам сямі салістаў, у тым ліку лаўрэатаў і стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі скрыпача Арцёма Шышкова і віртуознай цымбалісткі Аляксандры Дзенісені, а таксама ўкраінскай флейтысткі Юльяны Падолкі, віяланчэліста з Венесуэлы Ньета Хасэ Грэгорыа, расійскіх піяністаў...

На канцэрт-прэзентацыю праекта прыязджалі неаднаразовыя пераможцы міжнародных конкурсаў амерыканская скрыпачка карэйскага паходжання Эстэр Ю (упершыню яна іграла ў Мінску, калі ёй было толькі 11), яе калега з Польшчы Марыя Улашчоўская, віяланчэліст Ліяў Кербель, які прадстаўляе дзве дзяржавы: Бельгію ды Ізраіль, а сваё майстэрства ўдасканальвае пад кіраўніцтвам знакамітага беларускага педагога Уладзіміра Перліна. Прысутныя на прэзентацыі адзначылі сталасць і свежасць мастацтва запрошаных салістаў: маладыя, жыццярадасныя, выдатна падрыхтаваныя тэхнічна, напоўніцу аддаюцца ігры, існуюць у музыцы, шчыра дораць яе слухачам. Гучалі Канцэрт №3 G-dur Моцарта для скрыпкі з аркестрам, Канцэрт №1 A-dur Сен-Санса для віяланчэлі з аркестрам і Скрыпічны канцэрт D-dur Бетховена. Класіка. Вечная і маладая!



***На здымку: першае мінскае інтэрв'ю лаўрэата міжнародных конкурсаў Эстэр Ю.***

Повязі

# Колас шатландскай зямлі

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара

**Нагодай для сустрэчы дзвюх культур — беларускай і шатландскай — стаў дзень народзінаў выдатнага паэта Роберта Бёрнса. І гэта не дзіўна. Творчасць Бёрнса, нягледзячы на геаграфічную аддаленасць нашых народаў, духоўна вельмі блізкая беларусам. Таму напрыканцы студзеня прайшла "Вячэра Бёрнса ў доме Коласа" — па ўсіх правілах урачыстага святкавання ў Шатландыі. У якасці арганізатараў выступілі дабрачынная арганізацыя "Кельцкі крыж", таварыства "Беларусь — Ірландыя", дзіцячы фонд духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік".**

Якія асацыяцыі ўзнікаюць у вас пры згадцы Шатландыі? Мужчыны ў кільтах, гукі валынкі, танцы, вобраз Роб Роя, вершы Роберта Бёрнса... Усе гэтыя элементы, а таксама бонус — дэгустацыя нацыянальнай стравы хагіс, прыгатаванай па арыгінальным рэцэпце, прысутнічалі на свяце ў Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. На шатландскай валынцы (па ўсіх правілах: у пачатку і напрыканцы імпрэзы) граў Андрэй Мароз, натуральна, апрануты ў кільт. Нацыянальныя танцы скотаў прадставіў калектыў "Басаданс" з Мінскай школы сярэднявечнага танца, прагучала і песня пра горцаў у выкананні фольк-кантры-гурта "Рагнеда".

Важнай часткай шатландскай урачыстасці з'яўляюцца "прамовы". Так, прагучала прамова "Неўміручая памяць" пра Роберта Бёрнса, аўтар якой — кандыдат філалагічных навук Галіна Адамовіч. Затым — прамовы "Дзяўчатам" і адказ дзяўчат мужчынам.

Трэці сакратар пасольства Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Стэфан Джадж у кароткім выступленні "Дзве краіны" адзначыў: "Для мяне стала сапраўдным сюрпрызам тое, што творчасць Роберта Бёрнса так добра ведаюць у Беларусі, яго нават вывучаюць у школе. Думаецца, што асоба паэта стане добрай нагодай для сяброўства паміж Беларуссю і Шатландыяй".

Натуральна, гучала шмат вершаў Роберта Бёрнса, як у арыгінале, так і ў перакладзе на беларускую мову. Дарэчы, той факт, што вечарына адбылася менавіта ў музеі Якуба Коласа, не выпадковы. Справа ў тым, што сам пясняр захапляўся паэзіяй Бёрнса і перажываў за гістарычны лёс шатландцаў. У яго асабістай бібліятэцы захоўваюцца дзве "шатландскія кнігі" — зборнік паэзіі Роберта Бёрнса ў перакладзе Самуіла Маршака, а таксама кніга Вальтэра Скота "Роб Рой".



***На здымку: на шатландскай валынцы грае Андрэй Мароз.***

З-пад пяра

Свята ліхтароў "Юаньсяоцзэ", прымеркаванае да заканчэння традыцыйнага Новага года па месяцовым календары, прайшло ў Ліцэі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Арганізатарам мерапрыемства выступіў Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ. У якасці гасцей былі запрошаны намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч, рэктар БДУ Сяргей Абламейка, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол КНР у Беларусі Гун Цзяньвэй і іншыя. На свяце былі падведзены вынікі студэнцкіх і выкладчыцкіх конкурсаў мастацкага перакладу "Разумець Беларусь", "Вечнасць — гэта колькі?" і фотаработ "Кітай у маім сэрцы".

**Галіна БАБАК**

Касцюміраванае свята-прэзентацыя рамана Юрыя Татарынава "Барбара Радзівіл", якое ўбачылі наведвальнікі XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, было першым у шэрагу мерапрыемстваў, падрыхтаваных інфармацыйна-прававым агенцтвам "Рэгістр". Учора на пляцоўцы Міністэрства інфармацыі Беларусі новы твор "Миг бесконечности" прэзентавала Наталля Батракова. Сённяшнія гасцей чакаюць шпіёнскія гульні паводле твораў Сяргея Пясецкага, а 11 лютага на стэндзе "Рэгістра" — сустрэчы з аўтарамі. З 12 да 13 гадзін можна задаць пытанні і атрымаць аўтографы Тамары Лісіцкай і Юліі Ляшко, а з 15 да 16 — Сяргея Клімковіча.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

"Пад нёманаўскім сонцам" — новы праект Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, прысвечаны славутым землякам народнага паэта. Распачала яго літаратурная вечарына паэта Міколы Маляўкі. Дырэктар музея Зінаіда Камароўская ўручыла Міколу Аляксандравічу грамату "За ўшанаванне і папулярызацыю літаратурнай спадчыны Якуба Коласа". Старшыня дабрачыннага савета музея Анатоль Грэкаў распавёў пра зборнікі пісьменніка — "Коласавы абярэг" да 130-годдзя Якуба Коласа ды паэтычнага "Крыштальная галінка снегападу". Таксама выступілі сябры і калегі творцы.

**Дар'я ШОЦІК**

У Віцебскай духоўнай семінарыі прайшла творчая сустрэча паэткі Тамары Красновай-Гусачэнкі са студэнтамі. Тамара Іванаўна пазнаёміла семінарыстаў са сваімі паэтычнымі кнігамі "У света тени нет", "Спас", распавяла пра дзейнасць Саюза пісьменнікаў Беларусі, адказала на шматлікія пытанні чытачоў. Прысутным стала відавочна: усё жыццё паэткі — прыклад высокага служэння любімай справе.

**Алексій МАРКЕВІЧ**

Ярка, цікава, нават нечакана прадставіла сваю творчасць аматарам мастацтва паэтка Анастасія Кузьмічова. Разам з рэжысёрам-пастаноўшчыкам Віктарам Танюкевічам яна падрыхтавала паэтычны спектакль "Танцы з пісьмамі" паводле ўласнага вершаванага цыкла "Пісьмы да Бога". Спектаклем, які нагадаў прысутным пра драматычныя праекты Аляксандра Блока, распачала дзейнасць творчая майстэрня "Тры дошкі". Гледачы зацікаўлена назіралі гісторыю самотнай жанчыны, якая шукае гармоніі і справядлівасці. Энтузіясты не намераны спыняцца ў сваіх тэатральных вышуках.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Таццяна ШАМЯКІНА

# Цаглінка ў храм памяці

**У рэцэнзіях на творы пра Вялікую Айчынную вайну, як правіла, адзначаецца, што ўся праўда пра вайну яшчэ не сказана. Яна і не можа быць сказана ў прынцыпе: па-першае, тады адбывалася вельмі шмат фенаменальна складаных, неадназначных падзей, а па-другое, у кожнага яе ўдзельніка вайна была свая, з уласнымі драматычнымі перыпетыямі і з асабістым эмацыянальным стаўленнем да яе. Менавіта таму па-ранейшаму патрэбны кожны новы твор пра вайну: без прэтэнзій на канчатковую праўду, але як чарговая цаглінка ў велічны храм народнай памяці.**

Не абыходзіцца, канечне, без гістарычных міфаў. Апошнім часам прапаганда стала настолькі вытанчанай, а псеўдагістарычных кніг і фільмаў на тэму Вялікай Айчыннай вайны з'явілася такая вялізная колькасць, што постсавецкае насельніцтва разгубілася. Каму верыць? Дзе праўда, а дзе піяр-акцыя? У гэтых умовах кожнае новае слова ўдзельнікаў вайны набывае асаблівае значэнне.

У зборніку "Малінавы набат" ветэрана Аляксандра Суслава цэнтральнае месца займае раман "Сэрца ў палон не здаецца". Раман аўтабіяграфічны. У кнізе змешчаная біяграфічная даведка: "Суслаў Аляксандр Аляксандравіч нарадзіўся 26 кастрычніка 1922 года ў сям'і настаўнікаў у капальні Цэнтральная Удзярэйскага раёна Краснаярскага краю. Марыў пра паступленне ў Маскоўскі літаратурны інстытут імя А. М. Горкага, але ў сямнаццаць гадоў у жніўні 1940 года яго прызвалі ў армію. Вайна заспела Аляксандра Аляксандравіча ў Новасібірску. На фронт пайшоў добраахвотнікам. Суслаў — чалавек складанага ваеннага лёсу, салдат 1941 года. Ваяваў на дальніх подступах да Масквы, пад Вязьмай, Ельняй. Зведаў жах варожага палону. Быў падпольшчыкам у Горках Магілёўскай вобласці, партызанам, камандзірам дыверсійнага аддзялення, памочнікам камісара партызанскай брыгады № 47 "Перамога". Удзельнічаў у спуску 9 нямецкіх эшалонаў. Ваенны разведчык з 1943 года. Хадзіў у тыл ворага, браў "языкоў". Удзельнічаў у аперацыі "Баграціён", у вызваленні Мінска". Скончыўшы факультэт журналістыкі БДУ, А. Суслаў 60 гадоў працаваў па спецыяльнасці. І ён справядліва разлічвае, што яго багаты досвед, яго веданне жыцця і чалавечай псіхалогіі могуць і павінны быць запатрабаванымі грамадствам.

Аўтар не ставіць у рамане, прысвечаным пачатку Вялікай Айчыннай вайны, глабальных і вострадыскусійных праблем, не паказвае, у колькі разоў і ў чым Германія пераўзыходзіла СССР, а яна пераўзыходзіла і ў колькасці, і ў экіпіроўцы салдат, і ў прафесіяналізме нямецкіх палкаводцаў, і ў многім іншым. Савецкая дзяржава саступала практычна ва ўсім, але немцы прайгралі! Чаму гэта адбылося? Пісьменнік вырашае задачу, паказваючы ўмовы першых, а значыць, самых складаных месяцаў вайны ў невялікім раёне Магілёўскай вобласці. Там, у вёсцы Калінаўка, настаўнік Фаміч стаў адным з арганізатараў партызанскага атрада і дзякуючы свайму аўтарытэту і волі назват кіраваў пэўны час стаўленікам немцаў — бургаміістрам Жардзецкім, сваім былым вучнем. Не вагаючыся ўступілі ў барацьбу з захопнікамі Уладзімір Сасноўцаў, Павел Яцуна, Насця Прастакова, Пётр Кажура, Сяргей Вароніч, іншыя героі — сумленныя людзі, сапраўдныя патрыёты, якія вельмі добра ўсведамлялі, чым рызыкуюць.

Аднак знайшліся і здраднікі. Адвёўшы даволі шмат старонак на апісанне іх дзеянняў, аўтар не заўсёды паглыбляецца ў псіхалагічную матывацыю ўчынкаў — эгаізм не цікавы. Але звяртае ўвагу на тых, хто здраджваў з нейкіх іншых прычын: нянавісці да бальшавікоў, прагі ўлады ці з-за пагарды да сумленных людзей. Былі і ў падполлі людзі, якія не збаяліся смерці, катаванняў, фізічных пакут. А выдаў іх здраднік Шклюдаў. "Тайно от всех, даже от немцев, Филипп Захарович несколько месяцев собирал улики против всех, кого считал большевиками. Пригодился опыт, приобретённый ещё в гражданскую войну, когда он, бывший колчаковский контрразведчик, сделал карьеру в Благовещенске на сыскной работе в пользу японцев". Пасля грамадзянскай вайны Шклюдаў хаваўся ў глухой таежнай вёсцы, а пасля вярнуўся на радзіму. Калі прыйшлі немцы, ён не адразу кінуўся да іх, а ўважліва назіраў, аналізаваў, параўноўваў іх з японцамі і, у рэшце рэшт, вырашыў, што немцы ў Расіі — назаўжды. З гэтага часу здраднік вёў свой росшук: не ведаючы пра падполле, быў упэўнены, што яно ёсць, — і не памыліўся. Сачыць за людзьмі было яго таемнай страсцю. Ён прызвычаіўся прыглядацца, прыслухоўвацца, з рэплік і жартаў рабіў высновы пра настроі і сімпатыі землякоў. Прозвішчы і біяграфіі ўсіх падазраваных ім удзельнікаў антыфашысцкага падполля заносіў у тоўстую грасбухаўскую кнігу, з якой і пайшоў да немцаў.

Асаблівасцю рамана "Сэрца ў палон не здаецца" з'яўляецца яго поўны дакументалізм. Большасць персанажаў выступаюць пад сваімі сапраўднымі імёнамі. Больш за тое, у кнізе, якая пабачыла свет у выдавецкім таварыстве "Хата", змешчаныя фотаздымкі 20 удзельнікаў Горацкага падполля.

У прадмове да кнігі "Малінавы набат" Мікалай Чаргінец піша пра нялпрасты працэс стварэння рамана: "Сбор фактического материала занял почти два десятилетия: ведь в подполье будущий автор романа знал только строго ограниченное количество его участников — таков закон конспирации". Паводле архіўных дакументаў, успамінаў падпольшчыкаў і ўласных згадак Аляксандр Аляксандравіч у поўным аб'ёме ўзнавіў усю трагічную гісторыю Горацкага падполля. Элементам мастацкім, прыдуманым у рамане з'яўляюцца дыялогі, трэба сказаць, даволі шматлікія. Сюжэтная частка цалкам праўдзівая. Асабліва ўражваюць сцэны разгрому падполля, здзекаў з падпольшчыкаў як з боку акупантаў, так і з боку здраднікаў, захапляе гераізм Паўла Яцуны. Раман абрываецца на трагічнай ноце. Аднак напрыканцы аўтар палічыў неабходным змясціць яшчэ адну главу "Замест эпілога", у якой ён расказвае, як далей склаўся лёс герояў і антыгерояў кнігі.

Больш за тое, у зборнік "Малінавы набат" уваходзіць паэма "Корань жыцця", прысвечаная кіраўніку падполля Паўлу Яцуну. У ёй А. Суслаў распавядае пра аднаго з галоўных герояў рамана, сябра Паўла, Уладзіміра Сасноўцава. Уладзімір (як і сам аўтар) прайшоў праз неверагодныя жыццёвыя нягоды і застаўся такім жа сумленным, высакародным, нераўнадушным, адказным за ўсё, што адбываецца ў свеце.

Горкія радкі пра наступствы перабудовы, на якую аўтар ускладаў столькі надзей. А цяпер надзеі засталіся толькі на тое, што "вновь родятся Яцуны, // За нас готовые погибнуть. // Восславим их, ибо они // Не позволяют вере сгинуть, // Как тот святой из Назарета, // Они не раздают советов: // Всегда готовы крест нести // И нас от гибели спасти".

У зборнік, які стаў своеасаблівым рахункам творчых дасягненняў пісьменніка за пэўны перыяд, увайшла і паэма "Чорная быль", а таксама лепшыя вершы А. Суслава, аб'яднаныя ў раздзелы тэматычна, часам нават з парушэннем храналогіі — зроблена гэта дзеля таго, каб кампазіцыя пэўнага раздзела дапамагала зразумець унутраны свет лірычнага героя. Вершы нярэдка публіцыстычныя, прасякнутыя грамадзянскім, патрыятычным пафасам, у іх выяўляецца актыўная жыццёвая пазіцыя. Паэзія А. Суслава рацыянальная — гэта асаблівасць яго таленту, але яна шчырая і мудрая, поўная шчымлівых успамінаў і шчырай трывогі за будучыню. Ёсць глыбока пранікнёныя радкі, напрыклад: "Я в день сегодняшний через войну прорвался, // Взорвав колючую спираль годов". Аднак і лірычныя перажыванні не чужыя паэту.

Высокая духоўнасць воіна, які са зброяй у руках бараніў свабоду сваёй Радзімы, і сённяя натхняе Аляксандра Суслава на змаганне за народныя ідэалы. У вершах адчуваецца моцная воля і ўпэўненасць у хрысціянскай праўдзе — чалавечым сумленні. Яны натхняюць чытача — ён верыць пісьменніку-ветэрану, і гэтая аптымістычная вера дапамагае жыць у такім няпростым сучасным свеце.

# Жыве, спадзяецца, марыць…

Аркадзь РУСЕЦКІ

Зусім не выпадкова, шаноўны чытач, я даў такую назву артыкулу, прысвечанаму кнізе вершаў "Дзве зары" лаўрэата літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Алега Салтука (кніга пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура"). Невыпадкова, таму што гэты зборнік у пэўнай ступені сведчанне актыўнага творчага жыцця паэта, яго глыбокага філасофскага асэнсавання з'яў і падзей нашай супярэчлівай рэчаіснасці.

*Махнуць на ўсё-ўсё рукой*
*І збегчы ад сябе самога…*
*Не трэба мне такі спакой,*
*Бо свет —*
*суцэльная трывога.*

Сваё стаўленне да жыцця, узаемаадносіны з людзьмі і светам паэт адкрыта давярае чытачу ў шматлікіх вершаваных радках.

Паэзію А. Салтук разумее як сродак выхавання высокай маральнасці, духоўнасці і чалавечнасці, і тым больш крыўдна яму бачыць абыякавасць да паэтычнага слова:

*Быў больш паэт нядаўна,*
*чым паэт,*
*Сягоння ён не значыць анічога,*
*І не глядзяць*
*з павагай яму ўслед —*
*Ідзеш — ідзі,*
*дарог на свеце многа.*
*І не таму,*
*што ён інакшым стаў,*
*І не таму,*
*што таленту бракуе,*
*А проста час*
*бязмоўна ў нас настаў,*
*Калі ніхто нічога і не чуе…*

Працытую таксама радкі з верша "Сябру-паэту":

*…Не адным нам*
*выпала такое,*
*Каб балела сэрца без віны.*

*Мы не вінаваты прад сабою,*
*Што сумленна*
*здолелі пражыць.*

*Нехта нам са смехам*
*ці слязою,*
*Але ўслед, я веру, паглядзіць.*

*Наша слова ў некім*
*адгукнецца.*
*Будзе так,*
*бо так павінна быць…*

А каб паэтычнае слова не зацерлася, не згубілася, паэт зноў і зноў вяртаецца да сваіх вытокаў. Як і ў паэтычных зборніках, якія выйшлі раней ("Пачатак дня", "Працяг", "Свята зямлі", "На далонях жыцця", "Трывога лёсу", "Не разлюбі…", "На вейцы веку") чытач становіцца сведкам "элегіі вяртання" (В. Рагойша) паэта на яго маленькую Радзіму — у шумілінскую вёску Рыжэнькі.

Паэт з горкім жалем шкадуе, што некалі прыцягальная мясцовасць ператварылася ў такую, дзе ні "следу людскога няма, ні кала, ні двара, ні імя. Толькі сумнага неба палоска". Няма ўжо ўпэўненасці, што ажывуць яго Рыжэнькі і іншыя "памерлыя" вёскі.

Але ўсё ж паэтычныя пошукі А. Салтука ахопліваюць не толькі родныя мясціны. Звяртаецца ён і да векавых народных традыцый ("Валачобнікі", "Сенаванне"), і да неацэннага багацця нацыянальнай мастацкай культуры ("Лёсам Тапчэўскага…", "Ля помніка Буйніцкаму", "У вянок Аляксею Пысіну", "У Ляўках"), і — не менш важнае для самага аўтара — да вобраза маці ("Нам малая сасонка…", "Маме", "Таямніца", "З аднавяскоўцамі сваімі…", "Прабяжыць па твары змрочны цень…"). Вось, да прыкладу, невялікі верш:

*Мама,*
*Паміраючы,*
*Ты нешта хацела*
*мне сказаць,*
*Ды так і не змагла.*
*Найродная мая,*
*Я усё пачуў тады,*
*Калі цябе не стала!*

("Таямніца")




Драматычна-трагічнае гучанне ўласцівае вершам А. Салтука, прысвечаным тэме Вялікай Айчыннай вайны ("У бабкі пакасілася хаціна…", "Сасна памерла ў сцішаную поўнач…", "Сляды бяды вялі мяне сюды" і інш.). У кнізе і званы Хатыні гучаць ("Хатынь"), і вее над радкамі Чарнобыльскі пыл ("Лёс", "Хацеў бы я радасна жыць…"):

*Мы чарнобыльскім*
*шляхам ідзём*
*Без ніякай віны за сабою,*
*Нібы крыж,*
*на раменях нясём*
*Стронцый*
*з цэзіем за спіною.*

І над усімі гэтымі гістарычнымі падзеямі, развагамі пра ўласную творчасць дамінуе, уладарыць усеабдымнае пачуццё кахання. У творах А. Салтука — і глыбокі роздум, і асабіста перажытыя пачуцці, і народжаныя сэрцам словы прызнання ў святым і вечным. Вершы пра каханне "раскіданыя" паэтам па ўсёй кнізе, ад першых да апошніх старонак. У шматпланавасць кнігі арганічна ўпісаліся паэтычныя разважанні пра сэнс чалавечага жыцця ("Міг і вечнасць, хто іх разбярэ і адкажа, як так павялося: міг патрэбен зорцы, каб згарэць, вечнасць, каб святло яе лілося"), пра родную мову.

На жаль, цікавая ў цэлым, кніга "Дзве зары" не пазбегла агрэхаў аўтарскай паспешнасці. Так, у адным з вершаў лірычны герой яшчэ <u>ўваходзіць у лета</u>, яшчэ не было ні касцоў, ні касавіцы, а ўжо "стог заснуў пузаты, нібы бочка…" Хто гэты стог паспеў зласжыць? Мабыць, трэба было памятаць, што многія чытачы выйшлі з вёскі і ведаюць, калі ідзе стагаванне сена!

Трафарэтна гучыць параўнанне з верша "Запахла мятаю і кропам": "І поўня ў зоркавым шматкроп'і блішчыць, як новенькі медаль…"

У заключэнне — вось пра што. Кніга вершаў мае назву "Дзве зары"… У народзе кажуць, што чалавеку дастаткова адной зорачкі-зоркі, каб паспяхова рухацца да вызначанай мяжы. "Я спадзяюся, мару і жыву", — прызнаецца Алег Салтук. Я асабіста ўпэўнены (мяркую, што і прыхільнікі яго творчасці таксама), што "Дзве зары" — заходняя і ўсходняя — будуць пастаяннымі спадарожніцамі ў дасягненні паэтам і яго надзей, і яго мар.

# «Сабачы занятак» ці рэклама?

**У чарговай, ужо чацвёртай па ліку кнізе пародый лаўрэата прэміі “Залаты Купідон” у намінацыі “Сатыра і гумар” Анатоля Зэкава (дагэтуль былі “Дуэль”, “Дуэль-2” і “Кругі ў галаве”) даволі інтрыгуючая назва — “Каханне на снезе”. Так называецца адна з пародый.**

Наталля СІДАРЭНКА

Зрэшты, слова “каханне”, як і само гэтае пачуццё ва ўсіх яго праявах, прысутнічае ў зборніку Анатоля Зэкава, бадай, на кожнай старонцы. І гэта цалкам зразумела, бо ўсе пароды ў ім на радкі з інтымных вершаў беларускіх паэтаў. Калі ж улічыць, што да гэтай тэмы далучыўся кожны з творцаў, то дэфіцыту ў імёнах парадыст не адчуваў. Ды і сам ён — з кагорты закаханых паэтаў, што засведчана паэтычнымі кнігамі “Лісты да цябе” (2005) і “Промнік позірку твайго” (2008). Невыпадкова, мабыць, “Каханне на снезе” адкрываецца аўтаэпіграмай пад шаржыраваным партрэтам аўтара, які зрабіў мастак Алег Карповіч:

*З сабою разабраўся я дазвання*
*і ўжо таму дакладна ведаю:*
*як не пішу я вершаў пра каханне —*
*пішу пароды на тэму гэтую.*

І вось, разабраўшыся з сабой, парадыст разбіраецца з суседзямі па Парнасе, якія таксама прыклалі руку (і, вядома, сэрца) да стварэння беларускай паэтычнай, калі можна так сказаць (па аналогіі з Ленініянай), Каханіяны.

Прынцып размяшчэння пародый, якога прытрымліваецца Анатоль Зэкаў ва ўсіх сваіх кнігах гэтага кшталту, заўсёды нязменны: у алфавітным парадку. Некалі пісьменнік сам вытлумачваў яго такім чынам: “Каб нікому не было крыўдна: чаму, маўляў, нехта — першы, а я — у сярэдзіне ці зусім апошні, або — наадварот. Тут ужо ўсё залежыць не ад таленту, а выключна ад прозвішча...”

І ў “Каханні на снезе” паэты і паэткі таксама выстраеныя ад А (Валянціна Аколава) да Я (Святлана Явар). А паміж імі — астатняя “літарная” (і літаратурная) раць. Пад прыцэлам парадыста — і старэйшыя паэты (Мікола Аўрамчык, Алесь Бажко, Данута Бічэль-Загнетава, Ніна Галіноўская, Яўген Каршукоў, Мікола Маляўка, Мікола Мінчанка, Алесь Наўроцкі, Мікола Чарняўскі), і маладзейшыя (Таццяна Барысюк, Таццяна Будовіч, Андрэй Гуцаў, Зоя Падліпская), і нават тыя, чые прозвішчы сёння быццам бы і не на слыху (Кацярына Мяшкова, Ірына Хадарэнка, Надзея Шук).

Каханне — пачуццё шматграннае. Яно прыносіць радасць і боль, шчасце і расчараванне. Яно ўзвышае, так і выклікае дэпрэсію. То хочацца лятаць, то белы свет нямілы. Усё гэта парадыст знаходзіць у вершаваных радках сваіх калег: “Я хачу быць сёння самай лепшай, // Спадабацца я хачу табе” (Н. Шклярава), “Як ты глядзела на мяне! // Ніхто ўжо так глядзець не будзе” (І. Пракаповіч), “Турбуе жанчына мяне // сваім незвычайным з’яўленнем” (М. Трафімчук).

Часам сёй-той з паэтаў, звяртаючыся да каханай (каханага), нагадвае ёй (яму) пра сваю прыналежнасць да прыгожага пісьменства: “Вершы напішу я ў твой блакноцік. // Пачытай, пацешся, мілы коцік” (Г. Пашкоў), “Агортвае, натхняе нас любоў: // Як вершы, мы жыццё сваё складаем. // Як добра мы рыфмуемся з табой, // І нашы біярытмы супадаюць!” (С. Валодзька), “Ты мне на памяць падарыў блакнот, // Каб новым вершам там было не цесна” (З. Падліпская), “У яе далонях томік Труса // І газета з вершыкам маім” (М. Губернатараў). Свой адказ апошняму, як бы паставіўшы сябе на яго месца, парадыст завяршае на такой ноце:

*Не знаю, што сказаць на гэта,*
*Хіба шапнуць на вушка ёй:*
*“Ты лепей зазірні ў газету —*
*Там, у куточку, вершык мой.*
*Хай томіка яшчэ не маю,*
*Ды рукапіс я здаў у друк.*
*Калі ж мяне ты пакахаеш,*
*Пачну пісаць, як Трус Паўлюк”.*

Анатоль Зэкаў не столькі “вывуджвае” ў паэтаў камічныя радкі, колькі інтуітыўна адчувае, на чым можна пабудаваць камічную сітуацыю, у якую ён потым паставіць лірычнага героя, а заадно і самога паэта. Здавалася б, што такога ў няхай сабе і гіпербалізаваных радках Зінаіды Дудзюк “За паўтысячы вёрст у акне // Ноччу свеціць твая цыгарэта”? А вось якую выснову робіць парадыст:

*І гэты цыгарэтны знак*
*Душу напоўніць зноў натхненнем...*
*Як добра, што цябе, аднак,*
*Не адвучыла ад курэння.*

Ды і ўвогуле, пародыя для А. Зэкава — гэта самастойны твор, дзе ён не столькі паказвае паэта, колькі выказвае сябе. І робіць гэта віртуозна, з зайздросна вымалянай парадаксальнасцю, а то і абсурднасцю той ці іншай сітуацыі, у якую трапляе лірычны герой. Што ж датычыць парадзіруемых радкоў, то яны для парадыста ўсяго толькі штуршок да тэмы, па-сапраўднаму аб’ёмнага абагульнення. У тым і адрозненне Анатоля Зэкава ад, скажам, таго ж парадыста-мэтра Георгія Юрчанкі, у аснове пародый якога не толькі тэматычныя, а і стылявыя абсягі творцы.

Вось, напрыклад, пародыя на Алеся Пісарыка “Я дару табе...”. Адштурхоўваючыся ад паэтавага радка “Я дару табе ўсё, што пры мне...”, А. Зэкаў як бы разгортвае сказаную фразу:

*Я дару табе ўсё, што пры мне.*
*А ты моршчышся,*
*быццам бы ведаеш,*
*Што ўсё тое даўно не ў цане*
*І нікому зусім не патрэбнае.*

*Я дару табе ўсё. Забірай!*
*Ты ж глядзіш*
*на мяне надта грэбліва,*
*Быццам хочаш сказаць:*
*“Не карай*
*Тым, што толькі*
*табе і патрэбнае”.*

У аглядзе вершаў часопіса “Маладосць” за 2008 год “Душа й сама не бачыць свайго дна...” (“ЛіМ”, 2009, № 10) крытык Ганна Серэхан напісала: “Лірыка А. Зэкава змястоўная і простая для ўспрынядзя, а таму мае такую рэдкую ў сучаснай паэзіі рысу, як сцэнічнасць”. Тое ж самае, прынамсі, можна сказаць і пра яго пароды. Ці не таму яны карыстаюцца папулярнасцю ў чытачоў і добра ўспрымаюцца аўдыторыяй, калі іх чытае сам аўтар (і трэба аддаць яму належнае: А. Зэкаў у адрозненне ад многіх іншых калег па пяры робіць гэта не ад выпадку да выпадку, а даволі часта — як у сталіцы, так і па ўсёй Беларусі).

Згаданыя дагэтуль вершы складаюць першы раздзел кнігі — “Чаго ты хочаш?” А ёсць у ёй і другі — “Адналюб”, куды ўвайшлі пароды на паэтаў, якія пакінулі гэты свет. Былі ж напісаныя яны, як сцвярджае аўтар у вершаванай прадмове, “на іх, тады яшчэ жывых”:

*Паэты ў іншы свет сышлі,*
*а вершы іх перажылі.*
*І буду ўдзячны ім заўсёды я,*
*што засталіся і ў пародыях...*

Такім чынам Анатоль Зэкаў згадвае Таісу Бондар, Сяргея Грахоўскага, Авяр’яна Дзеружынскага, Уладзіміра Марука, Аляксея Русецкага, Нэлі Тулупаву, Яўгенію Янішчыц і іншых — усяго чатырнаццаць аўтараў.

На сустрэчах з чытачамі (сама неаднойчы чула) Анатоль Зэкаў нярэдка распавядае гісторыю, як некалі з Алесем Пісьмянковым яны выступалі перад школьнікамі ў Лідзе. Калі Пісьмянкоў запытаў у прысутных, ці ведаюць яны, хто такі парадыст, хлапчук у першым радзе выпаліў: “Гэта нешта з сабакамі звязана”, на што потым ужо, прыйшоўшы ў гасцініцу, Анатоль Зэкаў адрэагаваў так: “А хлапчук меў рацыю. Бо ёсць у маім занятку насамрэч нешта сабачае: на аднаго ашчэрыся, на другога гаўкну, трэцяга ўкушу...”

Гісторыю “Сабачы занятак”, якая ўвайшла ў кнігу “Алесь”, пісьменнік прыводзіць і ў зборніку “Каханне на снезе”. І ўсё ж, нягледзячы на яго самакрытычнае прызнанне кшталту “ашчэруся”, “гаўкну”, “укушу”, Анатоль Зэкаў тым не менш у сваіх інтымных пародыях не апускаецца ніжэй пояса, як тое ўласціва расійскім эстраднікам. Часам, бывае, сюжэт закручаны на мяжы фолу, але аўтар умее даволі далікатна выйсці з пікантнай сітуацыі, якую сам жа і стварае, а заадно ніякім чынам не абразіць таго, каго парадзіруе. Невыпадкова ў аўтаэпіграме са зборніка “Дуэль-2” сцвярджаецца:

*Паэты! Крыўдаваць не час,*
*што парадзірую я вас.*
*Няхай вас лепей тое цешыць,*
*што я чытаю вашы вершы...*

Думаецца, што іх прачытаюць і іншыя, а то, можа, нават і тыя, хто да гэтага часу не захапляўся паэзіяй. Бо пародыя — гэта не проста вясёлы жанр, а і сур’ёзная рэклама. У Анатоля Зэкава яна да ўсяго яшчэ і прывабная. Бо па-майстэрску і з густам зробленая.




# Майстар кароткага жанру

Уладзімір ЛІЎШЫЦ

**Кожны паэт, пісьменнік мае свой шлях на Парнас. Адны — праз філалагічныя ці журналісцкія факультэты, а потым рэдакцыі газет і часопісаў. Другія — праз доўгія гады шукання сябе ў розных сферах жыцця і праз цяжкія іспыты.**

Да апошніх адносіцца паэт Міхаіл Уласенка, якому сёння спаўняецца 75 год. Ён нарадзіўся на Мсціслаўшчыне ў вёсцы Юшкавічы Забалацкага сельсавета. Скончыў 7 класаў Маляціцкай СШ у 1954 годзе і паступіў у Мсціслаўскае вучылішча механізацыі. Да арміі працаваў трактарыстам, рабочым. Потым была служба на Балтыйскім флоце. Давялося падымаць і цаліну. У 1964 — 1965 гадах працаваў на будоўлі славутай Брацкай ГЭС.

Ужо тады яго пацягнула ў журналістыку, пачаў пісаць нарысы і вершы. Супрацоўнічаў з мясцовым друкам. У 1964 годзе ўдзельнічаў у рабоце канферэнцыі творчай моладзі, якая праходзіла ў Іркуцку, дзе займаўся ў секцыі вядомых паэтаў Аляксандра Межырава і Марка Собаля.

Пісаў пераважна на рускай мове. Амаль усё, напісанае да “перабудовы”, праз шматлікія пераезды аўтара было згублена і знішчана (спалена) уласнаручна, пра што Уласенка не шкадуе.

У 1966 годзе вярнуўся на радзіму. Пачаў працаваць у Крычаве літсупрацоўнікам “раёнкі”, атрымаў сярэднюю і вышэйшую адукацыю. У 1975 годзе ў Магілёве заўважылі таленавітага журналіста і запрасілі на працу галоўным рэдактарам Магілёўскага абласнога тэлерадыёкамітэта. А з 1980 па 1992 гг. ён — рэдактар Горацкай раённай газеты, затым уласны карэспандэнт “Магілёўскай праўды”. Цяпер пенсіянер, але працуе ўласным карэспандэнтам у абласной газеце “Зямля і людзі”.

Член Беларускага саюза журналістаў — з 1965 года. У 2006 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

У Горках пачаў асвойваць “кароткі” жанр: напісаў шмат эпіграм і міні-пародый, зрабіў эпіграматычны пераклад мноства рускіх і беларускіх прымавак, якія часткова ўвайшлі ў першую кнігу “Мелочи жизни” (2005).

“Гэта сапраўды кніга таленавітага аўтара, у якой сваё бачанне не толькі дня сённяшняга, але, не пабаюся перабольшыць, Сусвету ў цэлым…Тут ёсць з чаго пасмяяцца і задумацца, азірнуцца вакол і кінуць позірк у будучыню”, — так, ацэньваючы першую кнігу паэта, зазначыў пісьменнік Анатоль Казлоў.

“Мелочи жизни” захапляюць з першых радкоў, нясуць чытача ў вір “житейской суеты”. І цікава, што так і называецца другая кніга Уласенкі — “Базар житейской суеты”, выдадзеная ў 2010 годзе. Як лічыць юбіляр, да выбару літаратурнага жанру яго падштурхнула, найперш, само жыццё, багатае калізіямі, а таксама захапленне майстрамі парадыйнага жанру — Георгіем Юрчанкам і Паўлам Саковічам, Аляксандрам Івановым і Аляксеем П’яновым, многімі іншымі сатырыкамі і гумарыстамі.

А паэт Павел Саковіч выбар малой формы абгрунтаваў так: “Чаму менавіта да такога маленькай формы жанру звярнуўся Міхаіл Уласенка? Ды таму, што ён па форме кароткі, а па сэнсе вялікі”.

Вершы, эпіграмы, міні-пароды М. Уласенкі выхапленыя з нашага штодзённага побыту. Яны вабяць арыгінальнасцю жыццёвых назіранняў і нагадваюць нам пра тое, што мы самі часта назіраем, пра што думаем-разважаем і з чаго смяёмся.

Акрамя мініяцюр Міхаіл Уласенка піша сатырычныя вершы, паэмы, апавяданні на беларускай і рускай мовах. Яго творы друкаваліся ў “ЛіМе”, у часопісе “Вожык”, у альманаху “Гоман”, у абласным друку і на старонках калектыўных зборнікаў.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

Словакраязнаўцы



**Юрый БАЖЭНАЎ, загадчык рэдакцыі гістарычных і сацыяльна-эканамічных навук выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", распавядае пра ўвагу да краязнаўчай тэматыкі, якая займае значнае месца ў яго жыцці:**

— У апошнія гады ў нашым выдавецтве выйшлі кнігі "Тураў", "Друцк", "Гарадзея", "Глыбоччына: ад старажытнасці да сучаснасці", над якімі я працаваў. У вялікай ступені краязнаўчымі з'яўляюцца і кнігі з серыі "Памяць". Лічу, што для сапраўднага краязнаўцы вельмі важна не толькі вандраваць па краіне, але і мець шмат зносін з людзьмі, сапраўды ўлюбёнымі ў свой край. У якасці аўтараў на старонках эцыклапедычных выданняў друкаваліся Генадзь Каханоўскі, Міхась Маліноўскі, Алесь Госцеў, Ігар Бензярук, Міхась Клімец і іншыя.

Летась займаўся падрыхтоўкай дзвюх новых кніг, якія зацікавяць многіх. Па-першае, гэта кніга Алеся Карлюкевіча "І марам волю дам: Літаратурная карта Пухавіччыны". У ёй падрабязна расказваецца пра населеныя пункты раёна ў сувязі з пражываннем там пісьменнікаў і журналістаў ці наведваннем імі раёна. Здавалася б, Пухавіччына — вельмі знаёмыя мясціны. Але якая цікавая атрымалася кніга! Колькі новага адкрываецца нават для дасведчанага чытача! Самы выдатны факт з гісторыі літаратурнай Пухавіччыны — існаванне ў 1930-я гады ў Мар'інай Горцы Дома творчасці, дзе адпачывалі і пісалі многія вядомыя беларускія пісьменнікі. Вельмі ўразіла мяне частка аповеда пра паездку ў СССР у 1930 г. англійскай пісьменніцы Сесіліі Чэстэртон, якая па дарозе з Мінска ў Кіеў наведала Пухавічы і навакольныя вёскі. Я вельмі шчаслівы, што мая праца насычана такой цікавай і разнастайнай інфармацыяй пра родны край.

Пра "Альбом малюнкаў Дзмітрыя Струкава 1864 — 1867 гадоў" было шмат паведамленняў у друку. Працаваў над ім з найбольшым інтарэсам. Сёння засталіся адзінкі з храмаў, якія замаляваў мастак. І я адчуваю сапраўдны гонар, што пазнаёміўся з такімі рэдкімі матэрыяламі. Мабыць, інтуітыўна намагаюся кожную сваю працу і кнігу выдавецтва зрабіць крыху краязнаўчай. Напрыклад, на форзацы "Альбома" мы далі карту падарожжа Струкава па Беларусі, у канцы — алфавітны спіс населеных пунктаў, што згадваюцца ў кнізе. Гэта робіць яе яшчэ больш карыснай для мясцовых краязнаўцаў.

## Грант ад Мінаблвыканкама

Спецыяльны грант Мінаблвыканкама на развіццё традыцыйнай народнай культуры атрымаў Квасыніцкі цэнтр рамёстваў (Слуцкі раён). На ажыццяўленне праекта "Пояс Случчыны" плануецца выдзеліць каля 83 мільёнаў рублёў. Дзякуючы такой фінансавай падтрымцы цэнтр рамёстваў зможа набыць ткацкія станкі і іншае неабходнае абсталяванне, а таксама матэрыялы, канструкцыі для выставачнай залы, камп'ютарную і аўдыётэхніку, пашыць сцэнічныя касцюмы. Будзе створана пастаянна дзеючая экспазіцыя і выдадзены інфармацыйныя матэрыялы, якія паведаюць пра дасягненні тутэйшых майстроў. У Квасынічах рамёствамі займаецца каля сотні дзяцей, працуе шэсць майстэрняў (па ткацтве, салома- і лозапляценні, роспісе па дрэве, ганчарстве, вырабе беларускай лялькі), аднаўляюцца традыцыі пляцення беларускіх паясоў. Тут жа размясціўся клуб народных майстроў "Крылы творчасці", які аб'ядноўвае больш як 20 умельцаў.

**Бажэна СТРОК**

Музейны ўнікат

# Сведкі подзвігу, шчасця і суму

**Ульяна БЯЛОВА, фота аўтара**

**Шмат стагоддзяў людзі разважалі пра час — сімвал жыцця, імклівасці, хуткасці. Удасканальвалі гадзіннікі, пераводзілі іх на зімовы і летні час, падзялялі планету на часавыя паясы. Гадзіннікі на руцэ або на вежы ратушы па сённяшні дзень адлічваюць гісторыю людзей і горада.**

Цяжка ўявіць, колькі розных гадзіннікаў існуе на планеце. Спачатку былі сонечныя, пясочныя, потым механічныя, кварцавыя, электронныя. Чалавек, колькі сябе памятае, карыстаецца гэтым вынаходніцтвам. Вялікая калекцыя цікавых экспанатаў прадстаўлена ў залах Музея горада Мінска на выстаўцы "Новы год: мінскі час". Самы стары адносіцца да канца XVIII стагоддзя. Ёсць і тыя, вытворчасць якіх яшчэ толькі плануецца — "гадзіннікі будучыні".

Але найбольшую цікавасць выклікаюць гадзіннікі знакамітых беларусаў. Яны пражылі сваё жыццё побач з паэтамі, мастакамі, лётчыкамі… Напрыклад, настольны гадзіннік Якуба Коласа. На ім — час смерці вялікага песняра — 26-я хвіліна на другую.

Асабісты гадзіннік (маркі "ARSA") выдатнага савецкага лётчыка Паўла Галавачова, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, які збіў 32 варожыя самалёты. Яго жонка прынесла гэты гадзіннік мужа ў музей, таму што ён быў на руцэ пілота ў момант яго знакамітага подзвігу. Павел Галавачоў у небе над Прусіяй змагаўся з нямецкім асам і, рызыкуючы жыццём, пратараніў варожы "юнкерс". Пасля здолеў даляцець да свайго аэрадрома і пасадзіць машыну. Гэта была яго 20-я перамога. За мужнасць лётчыка ўзнагародзілі ордэнам Чырвонага Сцяга.

Ёсць сярод экспанатаў і насценны гадзіннік Міхаіла Савіцкага. Ён упрыгожваў майстэрню. Кожны дзень роўна а восьмай раніцы Міхаіл Андрэевіч прыходзіў сюды. Такая дакладнасць уласціва не ўсім творчым людзям, але, мабыць, сваёй пунктуальнасцю вялікі мастак быў крыху абавязаны і гэтаму непрыкметнаму гадзінніку.

На выстаўцы можна знайсці хранометры на любы густ, якія былі выпушчаны на працягу трох апошніх стагоддзяў. Механічны гадзіннік Густава Бекера, будзільнік з выявамі Імператара Мікалая II і яго жонкі, вулічны гадзіннік з Пецярбургскага вакзала XIX стагоддзя і шмат іншых рарытэтаў. Акрамя музейных ёсць тут і экспанаты з асабістых калекцый амаль 50 мінчан — гадзіннікі іх бабуль, дзядуль і бацькоў. А на адной са сцен музея бягуць стрэлкі гадзіннікаў усіх 24 часавых паясоў.

Музейнымі экспанатамі сталі старыя і новыя, на падвесках, у футлярах, насценныя і настольныя, наручныя і кішэнныя, пясочныя і кварцавыя, механічныя і электронныя, музычныя і камінныя, якія працуюць і не, — гадзіннікі і будзільнікі. Яны спяшаліся, адставалі, будзілі, адлічвалі хвіліны суму і шчасця людзей.






***На здымках: гадзіннік XVIII ст.; гадзіннік Паўла Галавачова.***

У рэчышчы

# Гісторыя вачыма «маленькага чалавека»

**Раіса МАРЧУК**

**Даследаванне "Пасляваенны быт на Мядзельшчыне. 1944 — 1956 гг.", якое праводзілі на працягу апошніх трох гадоў вучні Старагабскай школы-дзіцячага сада і Сваткаўскай сярэдняй школы імя Максіма Танка, было адзначана на раённым узроўні і вылучана на абласную канферэнцыю, дзе ўвайшло ў дзясятку найлепшых краязнаўчых работ. Але пошукі цікавай інфармацыі не спыняюцца, бо гэтая тэма па-ранейшаму актуальная, лічаць юныя даследчыкі мінуўшчыны і іх настаўнікі, якія змаглі па-сапраўднаму зацікавіць дзяцей краязнаўствам.**

Безумоўна, у наш час шмат увагі надаецца вывучэнню гісторыі Беларусі, а вось жыццё асобнага чалавека — земляроба, настаўніка, рабочага, урача, яго асабістыя праблемы, перажыванні, дасягненні іншы раз застаюцца па-за ўвагай. Гістарыкі звычайна чэрпаюць інфармацыю з архіваў. Пры напісанні гэтай даследчай работы за аснову быў узяты метад вуснай гісторыі, які рэдка выкарыстоўваецца ў нашай краіне, але даволі распаўсюджаны на Захадзе.

— Такі метад дазваляе звярнуцца да жывой крыніцы ведаў — непасрэднага ўдзельніка той ці іншай гістарычнай падзеі, каб адчуць яго эмоцыі, не прапусціць дробязі, што ўтрымлівае памяць суразмоўцы, — заўважае настаўнік гісторыі са Старых Габ Уладзімір Серадзінскі. — Ды і сам працэс збору і апрацоўкі матэрыялаў больш цікавы і захапляльны, чым праца з папяровымі носьбітамі інфармацыі. Гэтаму спрыяюць спакойная хатняя абстаноўка і тыя моманты, што настройваюць субяседніка на цікавую размову і шчырыя ўспаміны пра свой лёс. Мы ставілі перад сабою мэту спалучыць успаміны прадстаўнікоў розных катэгорый насельніцтва пра жыццё на Мядзельшчыне ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе.

Дарэчы, вусная гісторыя як асобны кірунак гістарычнай навукі склалася ў Заходняй Еўропе і Паўночнай Амерыцы напрыканцы 60-х — пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, што дазволіла даследчыкам і ўсім зацікаўленым убачыць свет вачыма "маленькага чалавека" і пачуць "голас большасці", чыя пазіцыя, здараецца, адрозніваецца ад погляду афіцыйнай гістарыяграфіі. Методыка вуснай гісторыі дае новыя магчымасці, асабліва ў краязнаўстве. Даследчык, збіраючы сведчанні пра мінулае, дапаўняе інфармацыю, атрыманую з пісьмовых крыніц, захоўвае прыгажосць і багацце вуснай мовы і народнай культуры.

— Успаміны людзей цесна звязаны з іх асэнсаваннем мінулага — як сваёй уласнай індывідуальнай біяграфіі, так і гісторыі таго грамадства, дзе прайшло іх жыццё, а таксама гісторыі краіны і свету ўвогуле, — распавёў Уладзімір Сяргеевіч. — Гэтыя ўспаміны разам ствараюць калектыўную гістарычную памяць і з'яўляюцца адной з формаў грамадскай свядомасці — другой выступала традыцыйна гістарычная навука. У нашай краіне вусная гісторыя як асобны кірунак акадэмічных даследаванняў яшчэ знаходзіцца ў працэсе станаўлення. Праўда, ёсць даследаванні па гісторыі рэпрэсій, пасляваеннага жыцця з выкарыстаннем метадалогіі вуснай гісторыі. Асобна можна адзначыць, да прыкладу, выданні "Беларуская Амерыка" Леаніда Пранчака, "Беларуская эміграцыя: скрыжаванні лёсаў" Аляксандра Адзінца, апублікаваныя ўспаміны Марыі Ганько і Вольгі Грыцук, што пачыналіся з інтэрв'ю і інш. Але ўпершыню методыка вуснай гісторыі была выкарыстана ў творах "Я з вогненнай вёскі" Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка, а таксама "Зачараваныя смерцю" Святланы Алексіевіч.

Як жа праводзілася цікавае даследаванне быту на Мядзельшчыне? Па-першае, стварылі дзве ініцыятыўныя групы. Першая займалася зборам і апрацоўкай інфармацыі, другая — тэхнічным забеспячэннем праекта. Апыталі жыхароў вёсак Брусы, Сваткі, Старыя Габы, Зані, Навасёлкі, Баяры і самога Мядзела. Найбольш вызначыліся як краязнаўцы вучаніцы Старагабскай школы Ірына Алексіевіч і Надзея Тачыцкая. Усю сабраную інфармацыю аформілі ў выглядзе фотабуклетаў і брашур.

— Нашы суразмоўцы, нягледзячы на ўж асноўным сталы ўзрост, добра памятаюць тагачаснае жыццё, шчыра адказвалі на ўсе пытанні, — падкрэсліў Уладзімір Серадзінскі. — Крыўдна было чуць, што ўлада ставілася да людзей не лепшым чынам, асабліва ў канцы 40-х гадоў, калі пачалі ствараць калектыўныя гаспадаркі. Хаця афіцыйныя дакументы паказваюць, што вяскоўцы з радасцю ўступалі ў калгасы, аднак жывыя сведкі тых падзей сцвярджаюць: гэта было не так. Сапраўдныя гаспадары не жадалі развітвацца з нажытым цяжкай працай дабром і шчыраваць у калгасе за некалькі кілаграмаў збожжа ў год. Працавалі ад цямна да цямна, бо механізацыі ў першыя пасляваенныя гады не было. І тым не менш людзі весяліліся, спявалі, танцавалі і нават стваралі знакамітыя не толькі ў раёне, але і па ўсёй Міншчыне мастацкія калектывы. Ва ўсіх вёсках было шмат музыкантаў, спевакоў і танцораў. Пасляваенныя гады мядзяльчане ўспамінаюць цяпер і з усмешкай, і са слязьмі: гэта іх жыццё.

Спадчына

# Семежаўскія цары

**Абрад "Калядныя цары" вядомы з XVIII стагоддзя і праводзіцца адзін раз на год — 13 студзеня, на Шчодры вечар. Убачыць абрад можна ў адзіным месцы на планеце — у вёсцы Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці.**

Ульяна БЯЛОВА

З сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя гэтую традыцыю пачалі даследаваць этнограф Тацціяна Кухаронак і журналіст Рэгіна Гамзовіч. У 1997-м яны знялі кінастужку "Калядныя цары", якая ўвайшла ў цыкл "Беларускі народны каляндар". Аўтэнтычнасць і непаўторнасць звычаю была адзначана ў кастрычніку 2009 года на чацвёртай сесіі Міжурадавага камітэта ЮНЕСКА па захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны, якая прайшла ў Абу-Дабі. Абрад уключылі ў Спіс сусветнай нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Сёлета яго прэзентацыя праводзілася ў рамках праекта Беларускага грамадскага аб'яднання "Адпачынак у вёсцы" пры падтрымцы Праграмы малых грантаў Пасольства ЗША ў Беларусі. "Калядныя цары" ў Семежаве святкаваліся як ніколі маштабна!

У адрозненне ад шматлікіх беларускіх абрадаў, у якіх большасць выканаўцаў — прадстаўнікі старэйшага пакалення мясцовых жыхароў, у "царах" бяруць удзел толькі маладыя мужчыны і юнакі. Яны пераапранаюцца ў белыя святочныя кашулі і нагавіцы, падпярэзваюцца крыж-накрыж адмысловымі паясамі з арнаментам. На іх галовах — высокія белыя шапкі з каляровымі стужкамі. Чаму менавіта такое ўбранства? У XVIII стагоддзі ў гэтай вёсцы стаяў атрад рускай арміі. На Каляды ўсе салдаты ў вайсковай форме хадзілі калядаваць па дамах: пелі песні, расказвалі байкі, танчылі. Вяскоўцы рабілі ім за гэта невялікія падарункі, частавалі святочнай ежай. Калі ж атрад пакінуў вёску, мясцовыя хлопцы працягнулі традыцыю. У Шчодры вечар яны апраналіся ў карнавальныя касцюмы, якія нагадвалі салдацкую форму. Таму народ і празваў іх "царамі".

Многія лічаць, што правядзенне гэтага абраду вельмі напамінае сюжэт традыцыйнай беларускай драмы "Цар Максіміліян". Вёска Семежава знаходзіцца на тэрыторыі найбольшага распаўсюджання ў мінулыя часы лялечных тэатраў і "Батлейкі". У "царах", як і ў народнай драме, якую паказвалі ў тэатрах, асноўную ролю адыгрываюць паядынкі. Таму можна смела адзначыць: звычай мог запазычыць некаторыя маналогі і ролі ў герояў "Батлейкі".

У абрадзе таксама сустракаюцца Дзед і Баба — персанажы-маскі, якія ўдзельнічаюць яшчэ і ў традыцыйным мясцовым вяселлі, і Лекар з вялікім тэрмометрам. Удзельнікі святочнага шэсця наведваюць кожную хату, спяваюць, водзяць карагоды, расказваюць цікавыя гісторыі. Жыхары вёскі шчыра частуюць "цароў" і ўсіх гасцей каўбаскамі ўласнага гатунку, блінамі і іншымі прысмакамі. Лічыцца: чым больш дасі пачастункаў гасцям, тым больш пашанцуе табе ў гэтым годзе. Калі становіцца цёмна, запальваюць факелы, і сем прыгожых салдат пачынаюць маршыраваць па вёсцы пад бой барабанаў і вясёлы тупат. За імі бягуць самыя маленькія ўдзельнікі свята, якія марацаь хутчэй падрасці, каб таксама крочыць разам з "царамі".

Вельмі хутка на сайце ЮНЕСКА ў спісе нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва, побач з фламенка, іголкаўколваннем і французскай кухняй, з'явіцца і беларускі абрад "Калядныя цары". А на Капыльшчыне будуць шчодра сустракаць цікаўных турыстаў з усяго свету.



Фота Сяргея Лазоўскага

***На здымку: удзельнікі святочнага шэсця.***

Традыцыі

# Этнічны эксклюзіў

**Унікальны даведнік пра фестывалі, святы-конкурсы і выстаўкі традыцыйнай культуры падрыхтавалі ў Мінскай вобласці. У брашуры "Святочнае кола малых гарадоў Міншчыны" змешчана інфармацыя пра асноўныя творчыя акцыі сталічнага рэгіёна, якія накіраваны на захаванне і папулярызацыю найбольш характэрных для раёнаў унікальных промыслаў і рамёстваў. Аповед суправаджаецца фотаздымкамі і адмысловымі народнымі прымаўкамі.**

Раіса МАРЧУК

Мерапрыемствы, якія атрымалі прапіску на рэгіянальным узроўні, безумоўна, зацікавяць нераўнадушных да спадчыны, якую зберагалі і захавалі нашы продкі. А яшчэ арганізатары фэстаў і пленэраў упэўнены: традыцыі беларусаў, іх звычаі, святы, абрады, рамёствы прывабяць і гасцей краіны.

— Мінская вобласць — спецыфічны культурна-гістарычны рэгіён, дзе на працягу стагоддзяў развівалася і развіваецца культура карэннага насельніцтва, нашчадкаў крывічоў і дрыгавічоў, — распавяла дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Раіса Вайцяхоўская. — Старажытныя Слуцк, Нясвіж, Клецк, Капыль адыгрывалі важную ролю ў фарміраванні беларускай этнічнай супольнасці. Сёння ў сталічным рэгіёне налічваецца 38 малых гарадоў.

Пачынаючы з 1996 года раёны прынялі па чарзе 18 свят-конкурсаў, якія сталі неад'емнай часткай культурнага жыцця не толькі вобласці, але і рэспублікі, і прысвечаны розным відам народнай творчасці: ткацтву, вышыўцы, ганчарству, бондарству, лоза- і саломапляценню, разьбе па дрэве, выцінанцы, фальклорнаму мастацтву. Найбольш цікавыя з іх — "Гліняны звон", "Саламяныя дзівосы", "Матчыны кросны", "Папяровыя карункі", "Беларуская лялька".

На свяце-конкурсе драўлянай манументальнай скульптуры "Сонечная цяпліня дрэва" лепшыя майстры Міншчыны і іншых рэгіёнаў краіны на працягу некалькіх дзён стваралі шэдэўры, якія потым засталіся там, дзе праходзіла мерапрыемства. Дзякуючы гэтаму некаторыя райцэнтры сталі сапраўднымі музеямі драўлянай манументальнай скульптуры.




— На Міншчыне шырока распаўсюджана традыцыя лозапляцення. У гэтай сферы працуе больш як паўтары сотні народных умельцаў, таму конкурс "Лазовыя карункі" заўсёды збірае шмат удзельнікаў і гасцей, — дадала Раіса Іосіфаўна. — Дзякуючы шматжанравасці свят дасягаецца галоўная іх мэта: ёсць стымул для развіцця народнага мастацтва, захавання і аднаўлення народных рамёстваў. Радуе, што разам з масцітымі майстрамі ў конкурсных праграмах удзельнічаюць навучэнцы гурткоў і студый дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з многіх гарадоў і мястэчкаў вобласці.

Пуцявіны

# Падказка для сённяшніх газетчыкаў

**Іван Ярашэвіч — вядомы на Чэрвеньшчыне краязнаўца. Працаваў дырэктарам СШ № 1 у Смілавічах. Цяпер — у мясцовым агратэхнічным каледжы. Выдаў кнігу вершаў. А яшчэ — выдатны зборнік эцюдаў пра паходжанне мясцовых назваў "Чэрвеньшчына: гісторыя ў тапонімах". Надрукаваў цікавае даследаванне ў альманаху "Гоман". І самае галоўнае — вельмі ўважлівы да таго, якімі знаходкамі можа аддзячыць роднаму паселішчу.**

Кастусь ЛАДУЦЬКА

— Вось і лістоўку, якая прысвечана падпісной кампаніі газеты "Беднота", я знайшоў у Смілавічах, — распавядае Іван Паўлавіч.

Тут, відаць, варта нагадаць, што гэта за выданне — газета "Беднота". Спярша выдавалася "Деревенская беднота" — з 12 кастрычніка 1917 па 6 сакавіка 1918 года. Затым яна аб'ядналася з газетамі "Деревенская правда" і "Солдатская правда" і стала выходзіць пад назвай "Беднота". І выходзіла пад гэтай назвай да 1931 года. З часам прыйшлі новыя назвы: "Социалистическое земледелие", "Сельское хозяйство", з 1960 года — вядомая многім і цяпер "Сельская жизнь".

— У 1925 — 1938 гадах, — зазначае Іван Ярашэвіч, — існаваў Смілавіцкі раён, у які ўваходзіла 10 сельсаветаў. У 1938 годзе гэты раён скасавалі. Пяць будынкаў былога райкама партыі і райвыканкама перайшлі да школы механізацыі сельскай гаспадаркі, якую перавялі з магілёўскіх Горак. Школа функцыянавала ў згаданых памяшканнях да 1954 года. Пасля навучальная ўстанова перасялілася ў новы двухпавярховы будынак. А ў ранейшых драўляных абсталявалі вялікія лабараторыі. Потым школу механізацыі рэарганізавалі ў вучылішча. У 1969 годзе для яго ўвялі новы велізарны вучэбна-вытворчы комплекс. А старыя пабудовы існавалі да сярэдзіны 1980-х гадоў. Калі іх разбіралі, то недзе ў сутарэннях знайшлі лістоўку газеты "Беднота".

Разам з Іванам Ярашэвічам разглядаем пажоўклую паперчыну. Як мне асабіста падаецца, распрацавана лістоўка досыць прафесійна. Мяркуйце самі. На першай старонцы (дакладней — на адным баку) — пад шапкай "Почему нужно выписывать и читать ежедневную газету, издание Центрального комитета ВКП (б) «БЕДНОТА?»" І далей — адказ: "Потому что: «Беднота» занимает боевую руководящую позицию в деле социалистического переустройства сельского хозяйства… широко и всесторонне ставит и обсуждает важнейшие вопросы колхозного строительства, организации труда и быта в колхозах. Вопросы сплошной коллективизации районов, округов и областей. Практические указания по разрешению всех хозяйственных вопросов внутри колхозов и районов сплошной коллективизации. …особое внимание уделяет вопросам организации бедноты, борьбы с кулаком, классового состава колхозов, партийной, советской и культурной работы в деревне. …освещает все вопросы международного положения и социалистического строительства нашей страны. …имеет единственную в СССР сельскохозяйственную лабораторию, которая оказывает колхозам и общественным опытным участкам всемерную агротехническую помощь".

А далей — на гэтым жа баку лістоўкі: "Кто должен выписывать, читать и распространять газету «БЕДНОТА»". І тут жа — адказ: "Каждый колхозник, бедняк и батрак, член сельсовета, агроуполномоченный и каждый активист деревни. Каждый колхоз, кооператив, МТС, изба-читальня, красный уголок, школа, каждая партийная, комсомольская и советская деревенская организация должны иметь и распространять газету «Беднота»".

Звярніце ўвагу на дзве акалічнасці. У лістоўцы сярод іншых выхадных дадзеных няма даты выдання. Мяркуючы па тым, што за "сплошную коллективизацию" агітавалі яшчэ і пасля 1930 (а як вядома, прыкладам, у 1935 годзе калгасы ў Беларусі складалі больш як 80 працэнтаў ад агульнай колькасці сельскіх гаспадарак), то лістоўка магла адносіцца і да пачатку 1930-х гадоў. Газета ж пад назвай "Беднота", нагадаем, выходзіла да 1931 года. А што да арцеляў сельскагаспадарчых, то яны існавалі на розных этапах савецкай рэчаіснасці. Утварэнне іх ішло раней, чым калгасаў. Але існавалі такія вытворчыя аб'яднанні і поруч з калгасамі.

І акалічнасць другога кшталту. "Беднота", як вынікае з лістоўкі, мела адзіную ў СССР сельскагаспадарчую лабараторыю і аказвала "всемерную агротехническую помощь". Пагадзіцеся, магутны фактар арганізацыйных высілкаў. Значыць, выданне было, згодна з ленінскай формулай, не толькі калектыўным прапагандыстам і агітатарам…

Не меней цікавы і другі бок лістоўкі, дзе размешчаны "Форма списа падпісчыкаў на газету «Беднота»" і "Інструкцыя". Падаецца, што некаторыя пункты той жа інструкцыі маглі б стаць добрай падказкай для сённяшніх газетчыкаў. Што цікава, падпіску (а гэта значыць — і грошы) можна было не толькі здаваць пошце, але і адпраўляць адразу ў маскоўскае выдавецтва. Пункт 5: "Сдавая заполненный лист почте, вы можете удержать в свою пользу 10 проц. (десятую часть) всей собранной вами подписной суммы (на правах субагента почты)".

Такая вось, здавалася б, простая знаходка…

— Бачыце, і ў тыя гады, — дзеліцца развагамі Іван Паўлавіч, — калі пры правядзенні падпіскі былі задзейнічаны жорсткі адміністрацыйны ўціск, рэкламная агітацыя была скіравана на індывідуальнага падпісчыка. Звярталася ўвага на сацыяльны статус чалавека, яго інтарэсы, зацікаўленні…

Блукаем з краязнаўцам па Смілавічах. З пяці згаданых драўляных будынкаў захаваліся толькі два. У адным — кватэры. Другі калі хто даўно не быў у Смілавічах, дык і не пазнае. Ранейшы райкамаўскі дом быў яшчэ і клубам ПТВ, і мэблевым магазінам. Цяпер тут месціцца царква. Пакідаю Смілавічы і ўсё думаю пра тое, колькі ж тут яшчэ прыхавана вялікіх і малых гістарычных таямніц, памятак, вартых увагі.



Наталля Казапалянская

* * *

*Сярод снегавога палону,*
*На возеры, ў шэрай нудзе,*
*Растала малая палонка,*
*І ў чорнай сцюдзёнай вадзе*

*Два белыя лебедзі ціха,*
*Любоўна выводзяць кругі,*
*Нібыта няма ў свеце ліха,*
*Не ў гурбах нібы берагі.*

*Плывуць яны гожа і згодна,*
*Кранаючы возера сны,*
*Па гладзі маўклівай, халоднай —*
*Анёлы прасветлай вясны.*

* * *

*Плятуцца патроху,*
*Нібы хто прымусіў,*
*Крывыя дарогі*
*Старой Беларусі.*

*Абапал дарогі —*
*Лясныя аблогі,*
*Курганныя схілы,*
*Каменныя богі.*

*Абапал дарогі —*
*Касцёлы і замкі,*
*Сялянскія хаты,*
*Жалезныя клямкі.*

*Абапал — раздолле,*
*Балоты і поле,*
*Ключоў пазалота*
*Ў зялёным прыполе.*

*Абапал дарогі —*
*То шчасце, то слёзы,*
*То нібыта ямы,*
*То німбы нябёсаў.*

## Чоран воран

**(з народнага)**

*Калыхаецца сіняе мора,*
*Над ім лётае, лётае воран.*

*Што ты кружыш усё, чоран воран,*
*Што ты бачыш на сініх прасторах?*

*Бачу цёмныя, цёмныя хвалі,*
*Што на дне, у пяску пахавалі*

*Маладога жаўнера з далёкага краю*
*І чагось сэрца мне ўсхвалявалі.*

*Што надумаў рабіць,*
*чоран воран,*
*У каторы з бакоў паляціш,*
*у каторы?*

*Палячу, палячу да Дунаю,*
*У дарозе маёй падумаю,*

*Як скажу яго маці я роднай,*
*Што прыбіўся сын к іншаму роду,*

*Як скажу маладой я нявесце,*
*Што жаніх аказаўся няверны:*

*На чужыне ёй здрадзіў з другою,*
*Ажаніўся з марскою вадою.*

* * *

*Мушу цябе не прыкмеціць,*
*Моўчкі прайсці, бы ўва сне.*
*Акальцаваны мой лебедзь,*
*Што ты пакінуў мне?*



Фота Аксаны Беленькай

*Сны ад журбы не схавалі,*
*Бог ад бяды не збярог.*
*З шумам халодныя хвалі*
*Падаюць да маіх ног.*

*Нудзіцца бераг пустэльны,*
*Наўкола не ўгледзіш людзей,*
*Толькі па возеры пенным*
*Пара плыве лебядзей.*

* * *

*Калі мы развітаемся з табой,*
*Але цяпер, канечне, назаўсёды,*
*Прыйду, нібы на магілкі, дамоў,*
*Праз вокны гляну на нябёс лагоду.*

*Я не завешу покрывам люстэркі —*
*Сваёй самоце дам упіцца воляй,*
*Ды толькі гора не падвоіць меркі —*
*Яго і быць не можа проста болей.*

*Іскрыся зноў, вясновая вада,*
*Змывай, зрывай з дарогі перашкоды,*
*І ў шчасці часам точыцца туга,*
*І ў горы знойдуцца святло і асалода.*

## Элегія

*Вясковы двор.*
*Сялянскія збудовы —*
*Калодзеж, хату,*
*просты плот і дровы,*
*Пакладзеныя ў доўгі рад,*
*нібыта словы*
*Благога верша*
*з сэнсам адмысловым, —*

*Пакрыў, каторы раз,*
*прынёс зямлі навіны,*
*Аздобіўшы вакольныя пуціны,*
*Нібыта пух ад зграі лебядзінай,*
*Прыгожы белы снег,*
*прыгожы і нявінны.*

*Снег выпаў гэты год*
*не позна і не рана.*
*Усё навокал бы*
*анёламі прыбрана*
*На пір таемны*
*для гасцей абраных,*
*Як Кнігай Вечнай*
*калісь абяцана.*

*Так. Вернуты спакой зямлі.*
*Ад сцюжы*
*Яна закрыта. Ямы,*
*рытвіны і лужыны*
*Залечаны… Якім бы дужым*
*Ты аказаўся, белы снег,*
*каб ацаліў і душы.*

Дэбют



Ірына Касянкова

**Ірына Касянкова працуе настаўніцай пачатковых класаў у Наваельнянскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна. Свае прачулыя вершы прысвячае Беларусі, родным мясцінам, узнёслым чалавечым пачуццям.**

## Мая малітва

*Я хачу, каб мой любы народ*
*Не гарэў у ваенным пажары,*
*А Чарнобыль бяды і нягод*
*Не забраў больш ніводнай ахвяры.*

*І няхай посвіст белых буслоў*
*Будзіць досвіткам родныя вёскі,*
*І няхай кучаравяцца зноў*
*На грудочку сяброўкі бярозкі.*

*Я прашу цябе, Бог: назаўжды*
*Захавай для нашчадкаў крыніцы,*
*Каб з празрыстай і чыстай вады*
*Нашы дзеці змаглі наталіцца.*

*Я прашу цябе, Бог!*

## Памяць

*Прыціхла стаяць, пахіліліся хаткі,*
*Старэнькія дзверы ад ветру рыпяць,*
*Забітыя вокны, бы шэрыя латкі,*
*З дакорам і болем наўкола глядзяць.*

*А памяць пакліча ў былое дзяцінства,*
*У яблычны водар і звон цвыркуноў,*
*Дзе час не пускае да вёскі злачынства,*
*Дзе лёгка душы, што яшчэ без грахоў.*

*Свавольна крычаць*
*вераб'і пад страхою,*
*Уранку бабуля аладкі пячэ,*
*Пагладзіць галоўку шурпатай рукою,*
*Спытае ласкава: "Мо хочаш яшчэ?"*

*Стаміўся ад клёкату бусел цыбаты,*
*Дзядулеў ля вулляў дымар задыміў,*
*Суседзі паклічуць на кубак гарбаты*
*Пад клён, што да хмаркі*
*плячо прытуліў.*

*Прыціхла стаяць, пахіліліся хаткі,*
*Старэнькія дзверы ад ветру рыпяць,*
*Забітыя вокны, бы шэрыя латкі,*
*З дакорам і болем наўкола глядзяць.*

## Маім родным

*Маё сэрца так моцна баліць:*
*Два грудочкі на ціхім пагосце.*
*Галаву каб да іх прытуліць,*
*Я здалёку бягу, з маладосці.*

*Абдымаю рукамі зямлю*
*І шапчу свае горкія словы,*
*Што вас помню і моцна люблю —*
*Нема сосны схіляюць галовы.*

*Я таксама хілю галаву,*
*У далёкім дзяцінстве блукаю;*
*І ніяк зразумець не магу,*
*Што згубіла і доўга шукаю?*

*Можа, роднае хаты цяпло,*
*І мне хочацца проста сагрэцца,*
*Запаліць у акенцах святло,*
*Без якога збалелася сэрца?*

*Часта мрояцца твары людзей,*
*Што смяяліся і сумавалі,*
*Адгалоскі і рэха падзей,*
*Што навечна у памяць запалі.*

*Маё сэрца так моцна баліць!*
*Два грудочкі на ціхім пагосце…*



Сяргей Патаранскі

## Каласы

*У полі каласы,*
*як галасы*
*анёлаў-продкаў,*
*а на іх спадзеўнасць*
*у час, калі бракуе сіл*
*душы, а целу моцы пэўнай.*

*Да іх малітва,*
*просьба ў цяжкі час,*
*як небакрай жыцця закрыты смутай,*
*бо продкаў дух між каласоў не згас,*
*калі суцешвае іх шум-пакуты.*

*Ёсць хлеб душы*
*і ёсць надзённы хлеб —*
*у каласах увасабленне хлеба:*
*мая Радзіма — храм святы ў імгле*
*і ў спеве каласоў — душы патрэба.*

## Роздум ля Слуцкай брамы

*Павядуць шляхі*
*праз Мір на Несвіж, —*
*ты ж спрадвеку*
*будзеш тут стаяць,*
*дзе вятрыскаў*
*буйнаграй кунежыць*
*тваёй памяці*
*ваярскай шаць.*

*Мо таму выявай нескаронай*
*ты паўстала,*
*дзе крынічыць Случ,*
*напамінам пра грахоў бяздоннасць*
*і пра веліч, што адвышай круч.*

*Непахісная твая пастава*
*і ваярскі гонар твой не знік,*
*мо таму літвінскае дзяржавы*
*ты адвеку зорны вартаўнік.*

## Санет Каложскае царквы

*Па-над Каложскаю царквой*
*анёлы ясныя лунаюць*
*і сон стагоддзяў адкрываюць.*

*І там самотніцай адной,*
*як і царква, душа на ўзвышшах*
*свае спявае Богу вершы.*

*З-пад кручы зеляной, як вір,*
*мая самотніца, здаецца,*
*у одум нёманскі сарвецца,*
*нібы душы маёй ампір.*

*Але пакуль існуе Бог,*
*Яна нязгаснаю святыняй*
*стаяцьме*
*над Сусвету стынню, —*
*хоць да нябыту толькі крок.*

## Нясвіжская імправізацыя

*Чароўны мой Нясвіж —*
*празорнае барока!*
*Твой дыстынктоўны крыж*
*узвіжаны высока.*

*Душы літвінскай стод*
*і Беларусі годнасць*
*паўсталі, як народ*
*маёй краіны роднай.*

*Што дрэвы, што палац —*
*усё тут выкшталцонасць,*
*бо нездарма палаў*
*дух Радзівілаў вольны,*

*які, як Беларусь,*
*Еўропы стаў званіцай,*
*які ў нягод пару*
*нам ідэалам мліцца.*

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

# Тузін + адзін «Залаты фаліянт»

**Напярэдадні адкрыцця XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў LI Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2012".**
**Сёлетні конкурс у многім набыў новыя рысы (прынамсі, паменшала колькасць намінацый — іх стала 13), але засталіся і яго нязменныя кампаненты — якасныя кнігі, паліграфічна выкананыя на самым высокім узроўні, праекты, над якімі старанна працавалі аўтары, выдаўцы, дызайнеры, мастакі… Натуральна, на конкурсе былі свае фаварыты, але імёнаў пераможцаў — то бок кніг і выдавецтваў — да пачатку цырымоніі не ведалі нават журналісты.**

Паводле палажэння конкурсу, кнігі, прапанаваныя выдавецтвамі, спачатку трапілі ў рукі сяброў экспертнай камісіі (старшыня — Валерый Рагалевіч, кансультант упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі краіны), якая вызначыла самыя важныя, глыбокія, актуальныя выданні і прадставіла іх на суд кампетэнтнага журы. Адметным быў склад журы конкурсу, а таксама крытэрыі, у адпаведнасці з якімі ацэньваліся прадстаўленыя выданні. Пра гэта падчас урачыстай цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў распавёў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, старшыня журы конкурсу "Мастацтва кнігі" Міхаіл Баразна. Міхаіл Рыгоравіч адзначыў: "У склад журы конкурсу ўвайшлі вельмі розныя людзі, і менавіта гэтая



розніца гарантавала аб'ектыўнасць ацэнкі. Зразумела, мы звярталі ўвагу не толькі на афармленне — яно ў нас заўсёды на высокім узроўні, бо беларускія мастакі кнігі адны з самых лепшых у свеце, — ацэньваўся і змест, а таксама ідэя. Конкурс «Мастацтва кнігі» ўжо перайшоў мяжу ў паўстагоддзя свайго існавання. У яго гісторыі запісаны прозвішчы вялікіх мастакоў, якія ўваходзяць у эліту сусветнага мастацтва".

Унікальнасць цырымоніі падкрэсліла таксама першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч: "У гэты дзень мы фактычна распачынаем Год кнігі, аб'яўлены ў краіне па ініцыятыве Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. Шмат мерапрыемстваў, вялікая праграма, мы будзем працаваць на розных пляцоўках, не толькі каб развіваць нацыянальнае кнігавыданне, але і каб разам умацоўваць духоўнасць".

Важна тое, што ў Нацыянальную бібліятэку краіны ў гэты вечар завітаў і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Баліварыянскай Рэспублікі Венесуэла ў Беларусі. Спадар Амерыка Дзіас Нуньес падкрэсліў: "Зварот да кнігі і аб'яўленне года, прысвечанага кнізе, робіць Беларусь унікальнай краінай. Унікальнай тым, што яна звяртаецца да духоўнага аспекту жыцця".

Але хопіць пра выступленні і прамовы. Звернем увагу на пераможцаў, то бок асноўных герояў вечара. Так, галоўную ўзнагароду конкурсу — Дыплом імя Францыска Скарыны, а таксама "Вялікі залаты фаліянт" у намінацыі "Трыумф" атрымала выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" за кнігу "Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў. 1884 — 1887". Такую ж узнагароду атрымалі загадчыца рэдакцыі мастацка-тэхнічнай падрыхтоўкі выданняў выдавецтва "БелЭн" Алена Сітайла (за мастацкае афармленне кнігі) і выдавецтва "Беларускі дом друку" (за яе паліграфічнае выкананне). Апроч гэтага "БелЭн" стала пераможцам у намінацыі "Залатыя скрыжалі" (лепшыя даведачныя і энцыклапедычныя выданні) — за персанальную энцыклапедыю "Максім Багдановіч", а таксама атрымала "Малы залаты фаліянт" у намінацыі "Эўрыка" (навуковыя і навукова-папулярныя выданні) — за кнігу Рамана Матульскага "З мінулага ў будучыню. Бібліятэкі Беларусі. Ч. 1. IX — пачатак XX ст.".

Два "Малыя залатыя фаліянты" на рахунку Беларускага фонду культуры. Так, пераможнымі сталі кнігі Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха" (намінацыя "За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны"), а таксама камплект кніг вершаў Максіма Багдановіча "Пагоня", "Раманс", "Слуцкія ткачыхі" (намінацыя "Літ-фармат").

У намінацыі "Арт-кніга" пераможцам стала выдавецтва "Артыя-Груп" за выданне фотаальбома "Мінск: горад і людзі. Фотаздымкі Вадзіма Качана". Выдавецтва "Вышэйшая школа" атрымала "Малы залаты фаліянт" за вучэбны дапаможнік з камплектам пропісаў І. Боблы "Буквар-2" — намінацыя "Падручнік новага стагоддзя". Лепшы "Фотапогляд" прадэманстравала БелТА ў двухтомным альбоме "Беларусь созидающая". "Малы залаты фаліянт" атрымае прапіску і ў РВУ "Літаратура і Мастацтва": трыумфатарам у намінацыі "Разам з кнігай мы расцём" сталі "Казкі цётухны Руф" Наталлі Голубевай. У намінацыі "Духоўнасць" перамагла кніга "Полацкае радаванне" Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра ў Полацку. Лепшым сумесным праектам у намінацыі "Садружнасць" было названа выданне "Закон Божы" Выдавецтва Беларускага Экзархата.

"Малы залаты фаліянт", а таксама дыплом пераможцы ў персанальнай намінацыі "Майстэрства" быў пасмяротна прысуджаны мастаку-графіку Мікалаю Казлову за вялікі асабісты ўклад у развіццё кніжнай культуры Беларусі.

Пераможцам у намінацыі "За прапаганду чытання" стаў калектыў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

РВУ "Літаратура і Мастацтва" таксама ўзнагароджана Дыпломамі I ступені ў намінацыях "Залатыя скрыжалі" (за выданне кнігі "Рарытэты Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь") і "Фотапогляд" — за выданне фотаальбома "Слуцк. Путешествие во времени".

***На здымку: дырэктар выдавецтва "БелЭн імя П. Броўкі" Таццяна Бялова і загадчык рэдакцыі гістарычных і сацыяльна-эканамічных навук "БелЭн" Юрый Бажэнаў прадстаўляюць кнігу-пераможцу ў намінацыі "Трыумф" "Дзмітрый Струкаў. Альбом малюнкаў. 1884 — 1887".***

*Новы праект*

# Усё жыццё ў экспазіцыі

**Стагадовы юбілей з дня нараджэння Максіма Танка, які будзе ўрачыста адзначаны ў верасні гэтага года, актывізаваў працу па ўшанаванні яго памяці. Адным з найбольш істотных мерапрыемстваў можа стаць адкрыццё на базе Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Цэнтра беларускай літаратуры.**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Не так даўно праходзілі ўрачыстасці з нагоды дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча і Максіма Багдановіча, яшчэ чакаюцца мерапрыемствы, прымеркаваныя да юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа. У такіх выпадках дзеянні грамадскасці часцей за ўсё каардынуюцца дзяржаўнай праграмай, зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Разам з тым, робіцца радасна і надзвычай прыемна, калі з ініцыятывамі выступаюць "на месцах". У прыватнасці, свой план сумесных мерапрыемстваў па святкаванні юбілею Максіма Танка зацвердзілі рэктар БДПУ імя М. Танка Пётр Кухарчык і старшыня Мядзельскага райвыканкама Аляксандр Даніленка (як вядома, паэт нарадзіўся ў вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна). Праграма, якая пачала рэалізоўвацца яшчэ ў мінулым годзе, уключае больш як два дзясяткі мерапрыемстваў, прысвечаных будучаму юбілею. Сярод іх конкурс на лепшы ўрок у намінацыях "Лепшы ўрок будучага настаўніка" і "Лепшы ўрок педагога-прафесіянала", што ладзіцца сумесна з часопісам "Полымя"; конкурс эсэ (сумесна з часопісам "Маладосць"); інтэрнэт-віктарына; конкурсы на лепшае чытанне вершаў М. Танка і курсавую работу, прысвечаную яго творчасці; дзве канферэнцыі: "Сучаснае літаратуразнаўства і мовазнаўства ў работах маладых вучоных" (возьмуць удзел школьнікі і студэнты) і "VIII Танкаўскія чытанні". Таксама запланаваныя экскурсіі і вандроўкі па мясцінах, звязаных з лёсам творцы (як па Беларусі, так і ў Вільні); сустрэчы з пісьменнікамі, а таксама з даследчыкамі, што вывучаюць творчасць паэта; тэматычныя экспазіцыі і выстаўкі, закладка алеі (сквера) імя Максіма Танка ў вёсцы Сваткі Мядзельскага раёна. Асобна трэба ўзгадаць пра памятныя манеты "Максім Танк. 100 гадоў", выпуск якіх мае намер ажыццявіць Нацыянальны банк.

Але "разынкай" праграмы, несумненна, стане адкрыццё Цэнтра беларускай літаратуры імя Максіма Танка ў будынку Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. Неабходна адзначыць, што ў сценах установы плённа працуюць Цэнтр азербайджанскай мовы і культуры, Цэнтр літвіністыкі, Цэнтр ізраільскай культуры і вывучэння мовы іўрыт. Таму супрацоўнікі ўніверсітэта ў асобе кіраўніцтва паспрабавалі вырашыць дзве задачы: прадставіць творчасць Максіма Танка, а таксама прэзентаваць беларускую культуру.

Як распавёў Васіль Старычонак, дэкан факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя М. Танка, адпаведна задачам была распрацавана канцэпцыя Цэнтра. Зразумела, значная частка матэрыялу, сабранага ў ім, будзе звязана з Максімам Танкам. Гэта яго паэтычныя зборнікі, фанатэка. У апошняй будуць прадстаўлены вершы паэта ў выкананні лепшых беларускіх акцёраў, запісы голасу самога аўтара. На сценах наведвальнікі ўбачаць фотаздымкі (творцы, яго бацькоў, сяброў), а таксама аўтографы Максіма Танка. У цэнтры будуць праводзіцца заняткі па беларускай літаратуры. Зрэшты, кабінет будзе ўвесь час адкрыты, таму яго зможа наведаць кожны студэнт.

Стваральнікі Цэнтра беларускай літаратуры паставілі перад сабой задачу не толькі расказаць пра Максіма Танка, а праз яго біяграфію адлюстраваць жыццё Беларусі ў 1930 — 1990-я гады. Урачыстае адкрыццё Цэнтра адбудзецца ў сакавіку гэтага года.



На здымку: *дэкан факультэта беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя М. Танка Васіль Старычонак.*

# Загадка Напалеона

**Пра творчыя скарбы беларускага Напалеона — піяніста, кампазітара, музычнага дзеяча, педагога, публіцыста, патрыёта свайго краю, аўтара соцень архітэктурна-ландшафтных замалёвак, пейзажаў, якія маюць сёння не толькі эстэтычную, але і гістарычную, дакументальную каштоўнасць, — пра Напалеона Орду столькі ўжо напісана і сказана! А загадка застаецца. І кожны напамін, кожны расповед пра Н. Орду не будзе лішні, бо мы, яго суайчыннікі, адносна нядаўна пачалі асэнсоўваць гэтую асобу як з'явішча сваёй, роднай культуры (складаны лёс культуры-донара наканаваны ёй!) ды характэрную праяву нашай драматычнай і неадназначнай гісторыі.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

**Чатыры дзесяцігоддзі таму** пра яго як мастака распавёў, і менавіта з беларускіх пазіцый, даследчык мастацтва Л. Дробаў. У 1980-х са старонак працы А. Ахвердавай шляхетны ўраджэнец берасцейскага Палесся паўстаў як рознабаковы музыкант, музычны пісьменнік, сябра Ф. Шапэна і А. Міцкевіча. Неўзабаве творы Напалеона Орды загучалі на фестывалях "Адраджэнне беларускай капэлы", "Музы Нясвіжа"... Наколькі бяднейшы быў бы айчынны гукасвет, калі б яго не раскведзілі шыкоўныя сімфанізаваныя транскрыпцыі вальсаў Н. Орды, створаныя нібы чулым суаўтарам — унікальным музыкантам Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі А. Шпянёвым; ці кранальны матыў "Старой песенькі" на верш А. Плуга (пераклад з польскай У. Мархеля) у пранікнёным выкананні В. Скорабагатава; ці далікатная інтэрпрэтацыя разнажанравай фартэпіяннай спадчыны нашага таленавітага земляка ў сольных праграмах піяніста І. Алоўнікава!

Да 190-годдзя Н. Орды колішні Беларускі інстытут праблем культуры выпусціў зборнік твораў для фартэпіяна ў выканальніцкай рэдакцыі прафесара І. Алоўнікава, з уступным артыкулам кампазітара Я. Паплаўскага. Першы айчынны мастацкі альбом "Беларусь у малюнках Напалеона Орды", выдалі да яго 195-годдзя. Потым былі іншыя выданні нот і графічных твораў. З'явіліся даследаванні В. Дадзіёмавай, а ў іх — звесткі пра тое, што ў доме пінскага старасты Матэвуша Бутрымовіча, дзеда Н. Орды, гучалі вясковая скрыпка і цымбалы, што ігра на клавікордах Юзэфы Бутрымовіч (у будучым Напалеонавай маці) захапляла караля Рэчы Паспалітай...

Інфармацыйны бум вакол беларускага Напалеона ўсчаўся ў 2007-м, калі шырока, пры ўдзеле ЮНЕСКА, адзначалася яго 200-годдзе. Мемарыяльную дошку ў гонар Н. Орды адкрылі ў цэнтры Парыжа (гэты горад амаль на чвэрць стагоддзя прытуліў ураджэнца далёкай беларускай вёскі, ўратаваўшы яго, колішняга бунтоўнага студэнта, ад сібірскай ссылкі, дазволіў зрабіць выдатную, і не толькі як для эмігранта, кар'еру, аднак не змог сваім галавакружным багемным бляскам суцішыць тугу па радзіме). Міжнародная навуковая канферэнцыя прайшла ў Мінску. Ладзіліся тэматычныя мастацкія пленэры і выстаўкі, канцэртныя праграмы. Пабачылі свет новыя, у тым ліку электронныя і факсімільныя, выданні, памятныя манеты, юбілейная паштовая марка.

Знакаміты аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга заснаваў тады новы рэгіянальны музычна-асветніцкі фэст — "Гасцёўня Напалеона Орды", што цяпер кожны год адбываецца на радзіме творцы, у Іванаўскім раёне. Як вядома, Н. Орда, згодна з яго апошняй воляй, і пахаваны ў старажытным мястэчку Янаў (сучаснае Іванава) — у радзінным склепе. У Іванаве яму ўстаноўлены помнік (1997 г., скульптар І. Голубеў). На месцы колішняй сядзібы Ордаў у вёсцы Варацэвічы працягваецца стварэнне музейнага комплексу. Імем выдатнага земляка названы вуліцы ў некалькіх гарадах, у тым ліку ў Брэсце, Гродне, Мінску. Выявай Нясвіжскага замка менавіта з малюнка Н. Орды аздоблена беларуская банкнота вартасцю 100 000 рублёў... А загадка душы мастака застаецца.

**Чаму Орда,** ужо немалады сямейны чалавек, абласканы еўрапейскім прызнаннем дырэктар Італьянскай оперы ў Парыжы, развітаўся са свецкім жыццём і вярнуўся да каранёў, у палескую вёску, да таго ж — у раскіданае гняздо? Мабыць, назапашаны жыццёвы прагматызм быў нявдатны заглушыць пачуццё настальгіі ў сэрцы высакароднага патрыёта, духоўнага нашчадка дэмакратычных ідэй Вялікага Княства Літоўскага. Дзіўна? Але ж гэтак... па-беларуску!

Паспрабуем знайсці тлумачэнне і адной дзіўнай "дробязі". Нашы даследчыкі падкрэсліваюць, што падчас эміграцыі Н. Орда меў цёплыя сяброўскія стасункі з Шапэнам, таварышаваў з Лістам... Чаму ж тады ў адной з самых жывых і арыгінальных кніг пра Шапэна, якая належыць пяру Ф. Ліста, прозвішча Орды згадваецца толькі аднойчы, мімаходзь і з нейкай містычнай недакладнасцю? Цытую: "Ён (Шапэн. — **С. Б.**) пастаянна бачыўся з маладымі палякамі (Орда, які падваў, здавалася, вялікія надзеі і забіты ў Алжыры ў дваццацігадовым узросце, Фантана, графы Платэр, Гржымайла, Астроўскі, Шэнбек, кн. Казімір Любамірскі ды інш.)".

Ці быў гэта нейкі іншы Орда? Наўрад. Калі ж гаворка пра Напалеона, дык вялікую памылку вялікага Ліста можна паспрабаваць растлумачыць. У Парыжы Н.Орда з'явіўся 26-гадовым чалавекам. Быў 1833 год. Ліст жа неўзабаве, у сярэдзіне 30-х, з'ехаў з Парыжа. Праўда, потым туды наведваўся. А з Шапэнам стасункі меў складаныя: кантраст характараў, мастацкіх густаў, жыццёвых поглядаў (што, аднак, не перашкодзіла ў 1852 г. выдаць пра яго кнігу, прасякнутую шчырым захапленнем). Біёграфы сцвярджаюць: у 40-я гады Шапэн ставіўся да Ліста з дрэнна прыхаванай ironiяй, нават з антыпатыяй, у перапісцы імя венгерскага віртуоза амаль не згадваў, сам яму ніколі не пісаў. Дык ці варта здзіўляцца, што ў памяці Ліста Шапэнаў прыяцель "Орда, які падаваў, здавалася, вялікія надзеі", адлюстраваўся 20-гадовым чалавекам, які быў "забіты ў Алжыры"?

Непрадказальныя людскія повязі, лёс чалавечы ды слава зямная ў дачыненнях з Яго Вялікасцю Часам! На тры гады старэйшы за Шапэна, Орда перажыў яго на 34. Аднак, пакінуўшы Францыю, апынуўся ў тагачаснай расійскай глушы. Не забіты — проста забыты ў кутку еўрапейскай правінцыі, але ж... знік.

**Хто ведае: можа,** якраз праявай загадкавага беларускага менталітэту сталася памкненне Н. Орды з парыжскай багемы на родныя абшары Палесся? Ён вярнуўся ў Варацэвічы ў 1856-м. Шмат падарожнічаў. Даваў урокі музыкі. Пісаў для фартэпіяна. Вандроўны лад жыцця быў для шляхціца, пазбаўленага дваранства, а значыць, і маёмасці, спосабам выжывання: ён гасцяваў у маёнтках даўніх прыяцеляў, але не дзеля баўлення часу і адпачынку. Ён працаваў як мастак. Таму і спадчына такая: сотні малюнкаў, і сярод іх неацэнныя для нас люстрункі тагачаснага аблічча беларускай зямлі. Ды ў якіх умовах яны ствараліся.





ДѢЛО

канцелярии Минскаго губернатора.

Фота з сайта www.niab.by.

Некалі давялося мне прагледзець пералік дакументаў 1820 — 1860 гг., што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне і датычаць Н. Орды. Ёсць тут клятва-абяцанне на вернападданства Н. Орды імператару Аляксандру II (1857); прашэнне Орды наконт выдачы яму грошай з канфіскаванага маёнтка Варацэвічы (1859); рукапісны пратакол яго допыту (1866)... І толькі нядаўна прачытала падрыхтаваны В. Казловым (НГАБ, 2007) артыкул пра малавядомыя дакументы, захаваныя ў справе за 28.03 — 10.04.1880 г. па данясенні начальніка Мінскага губернскага жандарскага ўпраўлення мінскаму губернатару наконт неабходнасці правядзення вобыску ў кватэры Н. Орды.

У сакрэтным данясенні гаворыцца, што "проживающий в Пинске мещанин Наполеон Орда, лишённый прав дворянства, за участие в последнем польском мятеже, занимается черчением каких-то планов, по слухам наших крепостей, которые отправляет за границу. (...) Наполеон Орда приехал в Пинск в ноябре месяце; лето провёл за границей, а затем путешествовал по Западным Губерниям, семья его, состоящая из жены и двух детей, живёт за границей. Орда в Пинске ведёт вполне замкнутую жизнь; всё своё время посвящает черчению планов и, как говорят его прислуга, чертит планы тех городов, в которых ему пришлось бывать. По окончании планов отправляет их в Англию и Германию, за что получает большие деньги; несколько раз получал по 100 и 180 р." Выканаўшы прадпісанне губернатара, пінскі павятовы спраўнік адрапартаваў: "... я отправлялся в квартиру мещанина Наполеона Орды, занимаемую в г. Пинске в доме помещицы Скирмунтовой /родственницы его/, и из разговоров с ним мог узнать, что он во время восстания в 1831 году выбыл из России во Францию, где был в рядах тамошних войск и вследствие дарованной в 1856 г. Высочайшей милости возвратился в Россию, оставив во Франции своё семейство, которое в настоящее время находится за границей, по возвращении в Россию по недоказанности прав дворянства причислен в мещане г. Гродно, и как не имел при старости лет никаких определённых занятий, избрал себе способ доставления средств к жизни чрез посредство снятия чертежей некоторых замечательных по древности разного рода замков, городов и помещичьих имений (...), снятые чертежи отсылает в литографию Фаянсова в Варшаву для отпечатки, и полученные в готовом виде альбомы продаёт в Харькове, Варшаве и за границей чрез своих знакомых, с получением за это действительно немалого вознаграждения за труд свой, но таких планов, которые бы указывали пути сообщения или виды крепостей, как заметно из разговоров его и самых лежащих в квартире его чертежей, он не снимает..." І далей: "...я счёл нужным представить Вам (...) два рисунка Пинского уезда б. костёла (...) и имения Дубой (...), и судя по этим чертежам, я по своему мнению не счёл возможным сделать у него обыск (...), тем более что как я мог заметить, что все подобные снимки у Орды находятся в местах, совершенно открытых для каждаго, как-то: на столах, в шкапу и в ящиках, и довольно в значительном количестве, следовательно, и не могут быть скрыты..." (цыт. з дакументаў, размешчаных на сайце НГАБ. — **С. Б.**).

**Да 205-годдзя Н. Орды** Беларускае тэлебачанне прымеркавала прэм'еру чатырохчасткавага тэлефільма ў праекце "Эпоха" вядомага журналіста А. Лукашэвіча. Яна дэманстравалася па буднях, ды на парозе ночы, таму не ўсе паспелі яе пабачыць, а шкада...

***На здымках: Напалеон Орда, фота 1880 г.; папка са справай "О лишённом прав дворянства Наполеоне Орде, занимающемся черчением планов городов, отправляемых за границу".***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА

Экспазіцыя жывапісу і графікі Івана Шышкіна, што разгарнулася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі да 9 красавіка, атрымала дапаўненне: на сайце музея адкрылася віртуальная выстаўка, прысвечаная гісторыі аднаго з твораў майстра. Гэта вядомая карціна "Балота. Жураўлі", што ўваходзіць у калекцыю НММ, дзе сабрана 20 жывапісных палотнаў, 8 малюнкаў і 9 афортаў І. Шышкіна. Даследчыца А. Рэсіна паведамляе наведвальнікам нямала цікавых падрабязнасцей. Аказваецца, музей набыў гэты твор у 1960 г. у Маскве, у сям'і знанага акцёра МХАТ І. Масквіна. Карціна ўпершыню экспанавалася на 18-й выстаўцы мастакоў-перасоўнікаў (Пецярбург, Масква, 1890 г.). У трох тагачасных каталогах яна значыцца пад назвай "Балота", і змешчаная ў "Ілюстраваным каталогу" выява цалкам супадае з карцінай, набытай нашым музеем, вось толькі на рэпрадукцыі... няма жураўлёў. Паколькі ні ў лістах Шышкіна, ні ў іншых дакументальных, навуковых крыніцах другі варыянт пейзажа не згадваецца, а звесткі пра існаванне карціны ў прыватных зборах пераконваюць, што гэта адна і тая ж работа, робіцца высновa: мастак, які



нярэдка "ажыўляў" свае пейзажы, упісаў фігуркі птушак у закончанае палатно, якое ўжо дэманстравалася на выстаўках. Ці сам Шышкін пісаў жураўлёў, калі гэта было зроблена, чаму пейзаж нельга лічыць палескім, як мянялася яго назва, можна даведацца на віртуальнай выстаўцы.

Пяць гадоў таму артысты НАВТ оперы і балета Беларусі стварылі самастойны калектыў — струнны квінтэт "Серэнада". Новы праект пад мастацкім кіраўніцтвам салісткі оперы Таццяны Траццяк быў прэзентаваны на Таццянін дзень 2007 г. у Малой зале імя Р. Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі. У ансамблі граюць скрыпачы Генрых Мацкевіч ды Максім Шапляк, альтыст Сяргей Траццяк, віяланчэліст Аляксей Окунеў, кантрабасіст Сергей Анашкевіч. Разнажанравы рэпертуар складаюць папулярныя творы класікі, джаз, рамансы, музыка экрана. Летась падчас імпрэзы "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў" квінтэт і салісты Таццяна Траццяк ды Станіслаў Трыфанаў нават паўтаралі на "біс" канцэртную праграму ў нясвіжскай ратушы. А нядаўна "Серэнада" прэзентавала ў сталічным "Loft cafe" свой першы кліп.

Няма сумневу: мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі Яўген Бушкоў любіць гульню лічбаў. Магічнае "тройчы адзінаццаць" — 11.11.11 — абраў ён мінулай восенню як дату прэм'еры праграмы "Салют, Кармэн!" А 12.02.12 у сталічнай філармоніі — "Бег. Ад Баха да П'яцолы". Як вядома, словамі "бег", "уцёкі", "хуткая плынь" перакладаецца музычны тэрмін "fuga" — назва паліфанічнай формы. І ў канцэрце прагучаць фугі Баха, Моцарта, Бетховена, Мендэльсона, Брытэна... З аркестрам "пабягуць" салісты Ігар Алоўнікаў (арган) ды Улада Беражная (скрыпка).

***На здымку: Іван Шышкін "Балота. Жураўлі" (1890).***

**Рознабаковы жывапісец, высокаэрудзіраваны тэатральны мастак, майстар малюнка, тонкі педагог-псіхолаг, прафесар Уладзімір Гардзеенка выйшаў у вялікі творчы свет з самабытнага кутка Хойнікшчыны. "Ад родных Клівоў мастака зусім недалёка да знакамітых мележаўскіх Глінішчаў, тых Куранёў, славута вядомых цэламу свету. І такое суседства, канечне ж, парупіла болей ашчадна і клопатна азірнуцца на родныя берагі. Хвалі плыткай рачулкі Віць за сценамі вясковых хат, вострыя пікі аеру, коўзкія карасі ў сажалцы... Усё гэтае, паляшуцкае, знанае, грэла душу радзінным цяплом, багата вяртала пяшчотных успамінаў — поўніла нутраным святлом, настроем карціны Гардзеенкі", — напісаў некалі пра свайго таленавітага земляка паэт Мікола Мятліцкі.**



# Сказана яшчэ не ўсё...

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Гэтую знітаванасць з малой радзімай, адданасць берагам свайго дзяцінства, асаблівую цеплыню і багацце паляшуцкай душы Уладзіміра Цітавіча я адчуў падчас нашай сустрэчы. Мастак дзяліўся ўспамінамі пра горкую часіну вайны, распавядаў пра гады студэнцтва, разважаў пра творчасць, прафесію, прыроду, жыццё... Гаварылі мы і пра тое, як працаваў майстар над глыбока метафарычнымі, напоўненымі ўзрушальным сэнсам і жыццёвай мудрасцю карцінамі, што складаюць яго вядомую серыю "Чарнобыль — трагедыя XX стагоддзя".

Уладзіміру Гардзеенку было 5 год, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, якую ён сустрэў на мяжы з Польшчай. Яму падаецца, што ў сваёй памяці ён трымае больш момантаў ваенных, чым пасляваенных. Бо дзіцячая памяць "занатоўвае, убірае" больш інфармацыі, а далей усё згладжваецца. Яго бацька, вярнуўшыся з Фінскай вайны пасля ранення, як афіцэр быў накіраваны ў памежнае мястэчка на Брэстчыне камандзірам батарэі. Да мяжы было каменем дакінуць, нават чулася, як польскія пеўні спявалі.

"Першы ўдар фашысты скіравалі на вайсковыя гарадкі, — прыгадвае Уладзімір Цітавіч. — І вайна для нас пачалася не а чацвёртай раніцы, а раней. Быў страшэнны грукат. У што маці паспела нас, дзяцей, апрануць, у тым і выбеглі з памяшкання. Помню адно: бацька нас абдымае, а я прыціснуўся да маці, якая малодшага брата трымала на руках. Бацька мне падаўся ўжо зусім іншым: цалуе то маці, то майго малодшага брата, то мяне. А для мяне, як ні дзіўна, усё гэта было ўжо нецікава, бо маю ўвагу прыцягнулі немцы на матацыклах. Бацька пабег, і больш мы яго не бачылі. Ён, як і ўсе гарнізонныя вайскоўцы, загінуў".

Сям'я Гардзеенкаў схавалася пад мост і праседзела там да вечара. А потым пачаліся блуканні: пайшлі па сем'ях, балазе, маці Уладзіміра Цітавіча была з Палесся, умела вязаць, вышываць... Пры выпадку падзарабляла. Але нехта данёс, што бадзяецца сям'я савецкага афіцэра, і іх разам з яўрэямі загналі ў гета. Потым немцы пачалі выяўляць лаяльнасць да мясцовых вяскоўцаў: дазволілі ім браць сабе ў дапамогу работнікаў, так бы мовіць, афіцыйных рабоў. Тады даволі бедная сям'я прыйшла ў гета і выбрала Гардзеенкаў, фактычна, выратавала іх ад смерці. Маці доўгі час на іх працавала, але ніякіх здзекаў або абраз з боку гаспадароў не было.

Немцы былі такія пунктуальныя, што ўсё зафіксавалі. І гадоў праз 10 — 15 пасля вайны ў Маскве супрацоўнікі КДБ знайшлі тыя спісы, дзе значылася, што ў такіх вось людзей падчас вайны знаходзілася ў рабстве сям'я савецкага афіцэра. Яны нечакана з'явіліся ў тых мясцінах, усе факты змяшалі з брудам, перакулілі з ног на галаву і саслалі кудысьці на Поўнач таго гаспадара-селяніна. Яго двух дзяцей выключылі з навучальных устаноў, дзе тыя атрымлівалі адукацыю. Але яны паспелі напісаць маці Уладзіміра Цітавіча ліст, каб тая пацвердзіла, што да Гардзеенкаў добра ставіліся, не здзекаваліся. Маці паехала ў КДБ, але ёй патлумачылі, што гэта іх справа



— вырашаць, хто мае рацыю, а хто не. І калі яна хоча, каб яе дзеці нармальна гадаваліся, а сама яна не выправілася ўслед за селянінам на Поўнач, то павінна ехаць дахаты і спакойна працаваць.

Пасля заканчэння сямі класаў Уладзімір Гардзеенка паехаў да сваякоў у Мінск. Аднойчы, гартаючы газету, заўважыў абвестку пра набор у мастацкае вучылішча. Напісаў заяву і ўжо не мог спакойна спаць ці нешта рабіць, пачаў рыхтавацца да экзаменаў: няўмела, без усялякіх падказак, не ведаючы элементарных рэчаў. Паступаў Уладзімір Цітавіч разам з Віктарам Шматавым.

"Мабыць, у мяне было нешта ад прыроды, бо здаў усе іспыты, — працягвае У. Гардзеенка. — Але мяне не залічылі: на 30 месцаў было пададзена 300 заяў. Да таго ж, 10 месцаў адводзілася інвалідам вайны, франтавікам. Па сваіх адзнаках я быў адным з першых кандыдатаў у студэнты. Пайшоўшы забіраць дакументы да дырэктара вучэльні, партызана мінулай вайны Івана Краснеўскага, я нечакана заплакаў, бо не вытрымалі нервы. А ён супакойвае: "Сынок, чаго плачаш, ты ж мужчына. Бывае і горш. Такіх хлопцаў, як вы, толькі за тое, што дабраліся да Мінска з глыбокага Палесся, здалі ўсе іспыты, без экзаменаў трэба залічваць. Але шкада, не магу гэта зрабіць".

Уладзімір Гардзеенка паехаў назад у Клівы. Але не паспеў дайсці да двара, як яго сустрэлі аднакласнікі і запыталіся, чаго той вярнуўся, бо прыйшоў жа выклік з вучылішча. Ён і сапраўды прыйшоў. Потым ён дазнаўся, што ў аднаго з залічаных інвалідаў адкрыліся раны, і той забраў дакументы. Так што лёс распарадзіўся, каб У. Гардзеенка паспяхова скончыў Мінскае мастацкае вучылішча, а потым і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

І па сёння Уладзімір Цітавіч, якому ідзе ўжо 76-ы год, нічым не адрозніваецца ад маладзейшых калег у творчай працы, хіба толькі тым, што ён больш адданы мастацтву ды больш дасведчаны ў ім.

> *"У мяне вельмі шмат матэрыялаў для асэнсавання сабралася за гады паездак у зону. Была напісана вялікая колькасць тэматычных палотнаў. Але тады ў Гомелі я зрабіў памылку: выставіў іх вельмі шмат, і яны пачалі псіхалагічна ўплываць на наведвальнікаў...*



А яшчэ яму дагэтуль баліць душа за Чарнобыль. Наступствы той страшнай вясновай падзеі 1986-га чорным ценем леглі на жыццё мастака, для якога, як і для кожнага нармальнага чалавека, вельмі шмат значыць родны кут. Яго родная вёска Клівы, дарагія і незабыўныя мясціны дзяцінства апынуліся ў зоне адсялення. Пасля аварыі Уладзімір Гардзеенка амаль на працягу дзесяцігоддзя па некалькі разоў на год ездзіў у небяспечны рэгіён, загадзя плануючы для гэтага свой час. А пачаў з таго, што напісаў ліст да старшыні Хойніцкага райвыканкама: з надзеяй на падтрымку паведаміў пра свой намер — стварыць серыю карцін, прысвечаных адселеным вёскам і людзям, якія пацярпелі. З Хойнікаў вельмі хутка адгукнуліся: прынялі адпаведную пастанову, выдаткавалі фінансавыя сродкі, пра мастака-энтузіяста напісалі ў мясцовай газеце.

Уладзімір Цітавіч успамінае: "Час у эканамічных адносінах быў цяжкі, узнікалі праблемы з палівам. Але давалі машыну, і мяне суправаджаў міліцыянер са спецыяльным пропускам. Міліцыянер мусіў пільнаваць сітуацыю, бо там можна было натрапіць і на розных звяроў, і на немаведама адкуль збеглых людзей, якія хаваліся ад грамадства і атабарыліся ў зоне. З намі таксама ездзіў супрацоўнік раённага краязнаўчага музея, які ведаў усе тамтэйшыя дарогі і сцяжыны. У кожную з такіх паездак мы за некалькі дзён, паводле спісу, аб'язджалі пакінутыя вёскі. Дзе магчыма было затрымацца — рабіў замалёўкі, дзе радыяцыйны фон зашкальваў — мне прапаноўвалі зрабіць фотаздымак. Мае спадарожнікі стаялі на асфальце і казалі, што вось тут — зашкальвае, а ты, маўляў, па бураломах і вербалозе шастаеш, дык там увогуле вельмі вялікая радыяцыя..."

Перажываючы бяду, што напаткала родную вёску Клівы, ён маляваў і асірацелыя Кажушкі, Дронькі, Радзін, Уласы, Бабчын, увасабляў веліч палескіх краявідаў, у якіх адвеку гучаць аптымістычныя, жыццесцвярджальныя ноты... Ды ўрэшце мастак зведаў на сабе агрэсію "мірнага" атама: моцна захварэў, дактарам давялося ратаваць яго нават ад клінічнай смерці. Але, нягледзячы ні на што, Уладзімір Гардзеенка не забываецца на родныя мясціны. Некалькі разоў ездзіў туды з жонкай і дзецьмі, каб яго самыя дарагія, блізкія людзі адчулі на сабе і ўбачылі, што сталася з яго малой радзімай, памяць пра якую наталяе душу цяплынёй, а прыродная прыгажосць па-ранейшаму ласчыць вока.

Персанальныя выстаўкі, якія ўключалі работы, зробленыя непасрэдна ў чарнобыльскай зоне, карціны, прысвечаныя Палессю і самой трагедыі Чарнобыля, У. Гардзеенка ладзіў у абласных гарадах, а ў Хойніках — двойчы (1993, 1996). Пры канцы 1990-х наладзілі ў гомельскай выставачнай зале вялікую тэматычную экспазіцыю, якая складалася з дзвюх частак: работ У. Гардзеенкі ды твораў мастакоў Гомельшчыны. Расказваюць, што на фоне яго ўзрушальнай персанальнай выстаўкі той калектыўны вернісаж выглядаў поўным праваламі, ствараўся ўражанне, нібыта мясцовыя творцы не былі падрыхтаваныя да глыбокага мастацкага выказвання на трагічную тэму.

"У мяне вельмі шмат матэрыялаў для асэнсавання сабралася за гады паездак у зону. Была напісана вялікая колькасць тэматычных палотнаў. Але тады ў Гомелі я зрабіў памылку: выставіў іх вельмі шмат, і яны пачалі псіхалагічна ўплываць на наведвальнікаў, — разважае У. Гардзеенка. — Карціна "Ваневы тапачкі. Замест некралога" (моцная жывапісная метафара, у цэнтры якой — пара дзіцячых тапачак ля апусцелага бальнічнага ложка. — **В. К.**) настолькі ўразіла адну з глядачак, у якой дзіця памерла, што яна страціла прытомнасць. І я зразумеў, што такія экспазіцыі трэба разнастайваць пейзажамі, нацюрмортамі... Сёння я, магчыма, адзіны мастак у краіне, хто не кінуў працаваць над гэтай тэмай. Завяршаю пастаянна серыю за серыяй. Увогуле, ёсць работы, якія яшчэ ніхто не бачыў".

Думаецца, невыпадкова адна з выставак Уладзіміра Цітавіча, які ў творчай мэтанакіраванасці, працавітасці, энергічнасці зусім не саступае маладым, праходзіла пад назвай "Яшчэ не ўсё мною сказана".

***На здымках: Уладзімір Гардзеенка і яго жывапісныя палотны "Перасяленцы" (1996 — 2005) і "Загубленая прыгажосць" (1999).***

Лаўрэаты прэміі «За духоўнае адраджэнне»

# Сустрэча як рэха

**Вечарына з удзелам лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва прыпала на апошні дзень студзеньскага календара. Яна адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — як рэха першых дзён 2012 года, калі з удзелам Кіраўніка дзяржавы праходзіла ўрачыстае ўшанаванне майстроў у Палацы Рэспублікі.**

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**

Сустрэча ў бібліятэцы задумвалася камернаю і праходзіла ў форме гутаркі-інтэрв'ю з запрошанымі гасцямі. Нягледзячы на розны ўзрост і род заняткаў, кожны з іх так ці інакш працягваў агульную канву выступленняў. Мы — беларусы. І жывём ды працуем на багатай і вельмі моцнай сваімі традыцыямі, спадчынай зямлі.

Сярод лаўрэатаў — прадстаўнікі творчых прафесій, кожны мае нешта асаблівае ў працы, свае прыёмы і метады, але памятае пра штодзённы абавязак.

Бацькі-выхавальнікі Нясвіжскага дзіцячага дома сямейнага тыпу Галіна і Ігар Бушмакіны — гаспадары адной з самых вялікіх сем'яў у Беларусі — разам з тымі, хто стварыў ужо сваю сям'ю, у гэтым доме выгадавалі 20 дзяцей. "Сцяжынку чалавек выбірае нават у лесе, а што казаць пра дзяцей, калі выбіраеш сцяжынку да іх сэрцаў?" — падзялілася сваімі развагамі спадарыня Галіна.

І найважней, каб нашы дзеці раслі здаровымі. "Пры лячэнні немаўлятак выкарыстоўваецца музыка Моцарта і Вівальдзі", — распавяла Галіна Шаўко, прадстаўніца вялікага калектыву аддзялення ранняга ўмяшання Гомельскай цэнтральнай гарадской дзіцячай паліклінікі. Калектыў гэты дабіўся поспеху ў развіцці сістэмы ранняй дыягностыкі і карэкцыі псіхамаўленчых, нейрасенсорных і маторных парушэнняў у дзяцей. Галіна распавяла і пра тое, што акрамя лекавых прэпаратаў дзеткам, у якіх прыродай закладзены вялікі патэнцыял, вельмі дапамагае музыка — калі яна створаная сапраўдным Майстрам.

Аб'ядналіся і прыйшлі да агульнага выніку творцы Сяргей Бышнёў, Аляксандр Суша і Валерый Чайка — стваральнікі ўнікальнай мазаікі на капліцы ў гонар іконы "Знаменне Прасвятой Багародзіцы". Святыя абразы можна ўбачыць на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу па ўвекавечанні памяці ахвяр Першай сусветнай вайны на месцы Мінскіх брацкіх могілак 1914 — 1918 гг. "Шукайце сваю кропку — яна ў Беларусі!", — пажадалі прысутным мастакі, раскрываючы сакрэт сваёй натхнёнай працы.

А яшчэ ў гэты дзень гаварылі пра Уладзіміра Караткевіча і яго прачытанне ансамблем "Класік-Авангард". Пра Тэатр, у якім кожная роля — як нараджэнне, і тэма любові — даўжынёй у жыццё. Пра Кнігу як твор сусветнага мастацтва і магчымасць вяртання нашай спадчыны — духоўнай і матэрыяльнай, пра працу рэстаўратараў...

Нацыянальная бібліятэка Беларусі да сустрэчы з лаўрэатамі традыцыйна арганізавала прысвечаную ім выстаўку матэрыялаў. Гэта кнігі, плакаты, фотаздымкі, перыядычныя і электронныя выданні, сабраныя пад адной назвай — "Вялікі талент. Вялікая праца. Вялікае сэрца". Можна было пачытаць пра лаўрэатаў ды паглядзець, да прыкладу, як праходзіць рэстаўрацыя абразоў: на асобным стэндзе іконы паказваліся такімі, якімі яны былі да рэстаўрацыі, на прамежкавым этапе і іх аднаўленае аблічча.

Гасцей выстаўкі ды лаўрэатаў прэміі "За духоўнае адраджэнне" і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва прывітаў начальнік упраўлення ўстаноў культуры і мастацтва Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Вадзім Шчэрбіч.

Былі і музычныя выступленні: узорнага дзіцячага калектыву беларускай песні "Цернічка" Мінскага Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў і цымбалісткі, лаўрэата міжнародных конкурсаў Веранікі Прадзед.



***На здымку:* *падчас сустрэчы з лаўрэатамі.***

# Бусел. Буслік. Буська

**Ірына ТУЛУПАВА,**
**фота Кастуся Дробава**



**Гомельскі палацава-паркавы ансамбль адзначаны спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за развіццё міжнароднага супрацоўніцтва. Толькі за 2011 год у палацы прайшлі 23 міжнародныя выстаўкі: з Расіі, Азербайджана, Арменіі ды іншых краін.**

Калектыў Палаца таксама прэзентаваў свае праекты ў блізкім ды далёкім замежжы. У прыватнасці, у Польшчы прайшла выстаўка "Народная ікона Гомельшчыны". А праект "Буслы", які прадставілі на сустрэчы з лаўрэатамі сёлетняй прэміі "За духоўнае адраджэнне" ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, экспанаваўся ў галерэі "Бяляева" ў Маскве (2010) — сумесна з Веткаўскім музеем народнай творчасці, у Калінінградзе (2011). Праявілі да яго цікавасць і сёлета.

…Усё пачалося з легенды, распаўсюджанай не толькі па Гомельскай вобласці. Пра тое, быццам бусел некалі быў чалавекам. Праз легенду супрацоўнікі расказалі пра розныя абрады, традыцыі, якія існуюць на Гомельшчыне, звязаныя з Птушкай, Буслам.

І зусім нечакана знайшлі нават у вядомых абрадах асаблівасці. У некаторых рэгіёнах Палесся, да прыкладу, на Каляды замест Казы водзяць Бусла. Усім вядома, што вобраз гэты асацыіруецца і з нараджэннем дзяцей, і з вяселлем. Загадчыца аддзела па зборы музейных матэрыялаў і экспазіцыйнай дзейнасці Гомельскага палацава-паркавага ансамбля Ганна Кузьміч, якая прэзентавала праект у Нацыянальнай бібліятэцы, распавяла: "Нават адна з назваў гэтай птушкі — Буська. І такая назва зафіксавана мясцовымі этнографамі. Напэўна, невыпадкова мы ў побыце, выказваючы пачуцці цяпла ды любові, гаворым: "Дай буську". Гэта так званы сямейны цыкл традыцыйнай абраднасці. Вобраз адлюстраваны і ў каляндарных абрадах, звязаных з земляробчымі цыкламі".

Праект "Буслы" вельмі добра быў прыняты ў музеях, дзе яго прэзентавалі. Бо, нягледзячы на тое, што ён мае выразны нацыянальны каларыт, гэты вобраз блізкі многім народам. Матэрыялы выстаўкі збіраліся з ужо надрукаваных крыніц і тых збораў, якія з'явіліся пасля праведзеных супрацоўнікамі Гомельскага ўніверсітэта, філолагамі экспедыцый па тэрыторыі вобласці. Выкарыстоўвалася і сабранае цягам гадоў Веткаўскім музеем народнай творчасці.

У бібліятэцы прадставіліся святочныя народныя касцюмы. Вялікую працу правёў па іх вывучэнні этнограф Міхась Раманюк. Але ўсё ж пры арганізацыі такой выстаўкі супрацоўнікі палацава-паркавага ансамбля абапіраліся найперш на ўласныя фонды.

***На здымку:* *супрацоўніца Гомельскага палацава-паркавага ансамбля Ганна Кузьміч прэзентуе перасоўную экспазіцыю "Буслік".***

Выстаўкі

# Час Купрэвіча

**Віктар СВЯКЛА**

**Пры канцы студзеня ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адкрылася выстаўка "Акадэмік Купрэвіч". Яна прымеркавана да 115-годдзя з дня нараджэння Васіля Купрэвіча (1897—1969) — выдатнага беларускага вучонага-біёлага, акадэміка, прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (1952 — 1969), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча.**

Выстаўка расказвае пра жыццёвы і творчы шлях вучонага, адлюстроўвае найбольш значныя этапы яго навуковай, службовай і грамадскай дзейнасці.

У аснове экспазіцыі — дакументы і матэрыялы Васіля Феафілавіча, яго рукапісны архіў, які ў 1989 годзе быў перададзены ў бібліятэку сынам Алегам Васільевічам і цяпер захоўваецца ў фондзе аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў. Акрамя таго, на выстаўцы можна пазнаёміцца з асобнымі дакументамі, якія належаць унуку вучонага Генадзю Купрэвічу. Частка экспанатаў дэманструецца ўпершыню.

Сярод самых ранніх дакументаў — копія выпіскі з метрычнай кнігі аб нараджэнні Купрэвіча, фотаздымкі бацькоў вучонага — Феафіла Лявонавіча і Матроны Паўлаўны.

На выстаўцы можна пабачыць матэрыялы, якія сведчаць пра службу Купрэвіча на флоце: атэстацыйная кніжка вучня школы юнгаў у Пецярбургу, пасведчанне камендора эскадранага мінаносца "Самсон", разам з камандай якога будучы вучоны ўдзельнічаў у штурме Зімовага палаца ў кастрычніку 1917 г., і інш.

Сярод дакументаў 1920 — пачатку 1930-х гг. — дыплом сельскагаспадарчай і рамесніцкай выстаўкі за складанне зельніка і калекцыі пустазелляў Смалявіцкага раёна, а таксама першыя друкаваныя працы, прысвечаныя вывучэнню прыроды роднага краю і грыбоў названай мясцовасці.

Праца Купрэвіча ў Батанічным інстытуце імя У. Л. Камарова АН СССР у 1930-я гг., а таксама ў другой палове 1940 — пачатку 1950-х, калі ён займаў пасаду дырэктара інстытута, пацверджана ў розных крыніцах, якія сталі асобнай часткай экспазіцыі.

Сярод экспанатаў, датаваных гадамі Вялікай Айчыннай вайны, — дакументы аб абароне доктарскай дысертацыі Васіля Купрэвіча "Фізіялогія хворай расліны ў сувязі з агульнымі пытаннямі паразітызму", якая адбылася ў лістападзе 1941 г., а таксама харчовыя карткі, выдадзеныя яму ў блакадным Ленінградзе.

Вялікая колькасць экспанатаў распавядае пра дзейнасць Купрэвіча ў АН БССР: дакументы аб абранні яго прэзідэнтам галоўнай навуковай установы Беларусі, працы на чале лабараторыі фізіялогіі і сістэматыкі ніжэйшых раслін, удзеле ў адкрыцці першага ў Беларусі эксперыментальнага атамнага рэактара і новага будынка Фундаментальнай бібліятэкі.

Наведвальнікі маюць магчымасць пазнаёміцца з дакументамі аб дэпутацкай дзейнасці Купрэвіча, яго ўдзеле ў міжнародных канферэнцыях па мірным выкарыстанні атамнай энергіі, навуковай паездцы па Французскай Гвінеі ў 1954 г., працы на пасадзе галоўнага рэдактара "Ботанического журнала".

На выстаўцы можна ўбачыць і ўзоры перапіскі Васіля Феафілавіча з вучонымі Беларусі, СССР і замежжа (М. Грашчанкаў, А. Жэбрак, М. Дарожкін, М. Турбін, М. Келдыш, У. Сукачоў, А. Жан-Фелікс і інш.), дзеячамі літаратуры і мастацтва (К. Крапіва, П. Глебка, М. Лынькоў, З. Азгур і інш.).

Пацвярджэннем прызнання заслуг Купрэвіча з'яўляюцца пасведчанне аб узнагароджанні яго медалём "За абарону Ленінграда", фотаздымкі, зробленыя ў майстэрні З. Азгура падчас працы над бюстам вучонага, прысвечаныя яму віншавальныя адрасы.

З экспанатамі выстаўкі можна пазнаёміцца ў чытальнай зале рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ імя Якуба Коласа НАН Беларусі (вул. Сурганава, 15).

# Беларускі аазіс на Туманным Альбіёне

Алесь СУША

**Сёння ў зборах Беларускай бібліятэкі імя Францыска Скарыны ў Лондане захоўваецца, па розных падліках, каля 40 — 50 тысяч выданняў. Сярод іх найбольшую колькасць складаюць, безумоўна, кнігі. Іх лік перавышае 30 тысяч асобнікаў. Праз гэтыя тысячы кніг з Беларуссю можа пазнаёміцца кожны ахвотны, бо бібліятэка адкрыта для ўсіх наведвальнікаў, незалежна ад іх грамадзянства ці нацыянальнасці. У кнігах асвятляюцца праблемы вывучэння беларускай народнай творчасці, айчыннай літаратуры, мовы і гісторыі, пытанні рэлігійнага, мастацкага і інтэлектуальнага жыцця ў Беларусі.**

У зборах бібліятэкі нямала каштоўных стардрукаў — усяго іх некалькі дзясяткаў. Можна знайсці выданні "Статута ВКЛ" (1594 — 1595, старабеларускае; 1619, польскае), "Трыбунала ВКЛ" (1616), выданні беларускіх праваслаўных і ўніяцкіх друкарняў у Вільні, Супраслі, Куцейне, а таксама кіеўскія, маскоўскія і львоўскія стардрукі і выданні многіх заходніх выдавецтваў.

Ёсць тут бясцэнныя скарбы першых публікацый знакамітых сёння класікаў беларускай мастацкай літаратуры. Напрыклад, на выстаўцы, адкрытай у 1982 годзе ў бібліятэцы да юбілейнай канферэнцыі, прысвечанай Янку Купалу і Якубу Коласу, былі прадстаўлены не толькі рукапісы класікаў, але і іх першыя друкаваныя зборнікі. Сярод аўтографаў — паэма "Курган" і вершы "Роднае слова", "Памяці Вінцука Марцінкевіча" і "Хаўруснікам" Янкі Купалы (іх у 2010 годзе Аляксандр Надсан перадаў у мінскі музей песняра), уступ да "Сымона-музыкі" і няскончаны верш "Антону Луцкевічу" Якуба Коласа. Першыя ж выданні класікаў былі прадстаўлены кнігамі "Жалейка" (1908), "Адвечная песня" (1910), "Сон на кургане" (1913), "Шляхам жыцця" (1913), "Раскіданае гняздо" (1919), "Спадчына" (1922), "Родныя з'явы" (1914), "У палескай глушы" (1923) і "Сымон музыка" (1925).

Бібліятэка рупліва захоўвае рарытэтныя сёння кнігі Максіма Багдановіча "Вянок" (1913), Максіма Гарэцкага "Рунь" (1913) і "Дзве душы" (1919), Ядвігіна Ш. "Васількі" (1914), Канстанцыі Буйло "Курганная кветка" (1914) і многія іншыя выданні, з якіх бярэ пачатак сучасная беларуская літаратура. Унікальная і калекцыя беларускай эміграцкай прозы і паэзіі, прадстаўленая як у выглядзе асобных кніжных выданняў, так і ў форме публікацый у заходняй перыёдыцы.

На многіх кнігах можна знайсці пазнакі іх колішніх вядомых уладальнікаў. Напрыклад, у бібліятэцы захоўваюцца кнігі з аўтографамі, якія належаць гісторыкам і краязнаўцам Аляксандру Ельскаму і Аляксею Сапунову, пісьменнікам і літаратуразнаўцам Рамуальду Зямкевічу, Вацлаву Ластоўскаму, Максіму Гарэцкаму, Максіму Танку, Сяргею Новіку-Пеюну, святарам Вінцэнту Гадлеўскаму, Мікалаю Лапіцкаму, Адаму Станкевічу, Язэпу Германовічу, грамадскім дзеячам Язэпу Варонку, Кастусю Езавітаву, Антону Луцкевічу, Янку Філістовічу, Вацлаву Пануцэвічу і многім іншым. Прадстаўнічасць тых пазнак стала падставай для стварэння ў 2001 годзе Юрасём Лаўрыкам асобнага каталога "Беларускія кніжныя пазнакі ў зборах бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лондане".

Безумоўна, зборы гэтыя далёка не абмяжоўваюцца аднымі кнігамі. Тут сабраныя цудоўныя калекцыі разнастайных перыядычных выданняў, карты, паштоўкі, архіўныя дакументы і многае іншае. Так, з 1950-х гадоў і да сённяшняга дня бібліятэка падпісваецца на шматлікія перыядычныя выданні, што выходзяць у Беларусі і па-за яе межамі. Надзвычай цікавымі таксама падаюцца камплекты каля 200 перыядычных выданняў, якія выдаваліся ў міжваенны і ваенны час: "Гоман" (1916 — 1918), "Варта" (1918), "На чужыне" (1920), "Вольны сцяг" (1920 — 1922), "Крывіч" (1923 — 1926), "Замежная Беларусь" (1926), "Хрысціянская думка" (1931 — 1939), "Калоссе" (1935 — 1939), "Беларуская газета" (1942 — 1944), "Раніца" (1940 — 1945) і іншыя. Многія з тых выданняў сёння адсутнічаюць нават у дзяржаўных зборах Беларусі.

Картаграфічная калекцыя бібліятэкі змяшчае больш як сто карт, самыя даўнія з якіх датуюцца XVI стагоддзем. Сярод самых цікавых — карты Вялікага Княства Літоўскага 1600, 1613 і 1647 гадоў, а таксама грунтоўны і падрабязны Атлас Рэчы Паспалітай, падрыхтаваны і выдадзены ў 1772 годзе Рыччы Заноні. Сярод больш сучасных можна звярнуць увагу на карту Беларусі 1919 года Мітрафана Доўнар-Запольскага.

Беларуская музыка грунтоўна прадстаўлена калекцыяй на вінілавых пласцінках, запісамі на касетах і CD. Гэтыя зборы дапаўняюцца цудоўнымі зборамі музыказнаўчай літаратуры, копіямі з Супрасльскага і Жыровіцкага ірмалояў, шматлікімі нотнымі выданнямі і рукапісамі Аляксея Туранкова, Міколы Равенскага, Рыгора Шырмы, Міколы Куліковіча-Шчаглова і іншых.



Тут жа захоўваюцца і каштоўныя архівы многіх беларускіх арганізацый і асобных дзеячаў, што працавалі ў Еўропе, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы. Бібліятэка зберагае і больш раннія архіўныя дакументы: матэрыялы па царкоўнай гісторыі, датаваныя XVIII і XIX стагоддзямі, унікальныя дакументы мінулага стагоддзя. Найстарэйшы беларускі рукапіс з яе збораў датуецца 1499 годам. Дарэчы будзе адзначыць, што больш ранніх айчынных рукапісных крыніц, чым датаваныя XV стагоддзем, не маюць і бібліятэкі нашай краіны.

Апрача ўласна беларускіх дакументаў захоўваюцца тут і роднасна блізкія ім. У якасці прыкладу можна прывесці рукапіс беларускіх татараў "Тэфсір" (1725) або Каран на арабскай мове з паралельным перакладам на беларускую і польскую, запісаным арабскім пісьмом.

З мэтай вывучэння і прапаганды беларускай культуры Скарынаўская бібліятэка яшчэ з 1960-х гадоў ладзіць разнастайныя кніжныя і мастацкія выстаўкі, навуковыя канферэнцыі. Дзякуючы шматлікім выстаўкам, у якіх удала спалучаліся кніжныя помнікі і творы выяўленчага і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, замежная грамадскасць многае дазналася пра наш край. Асаблівай папулярнасцю бібліятэка карысталася ў часы СССР, калі назіралася значная цікавасць да нашай гісторыі, а крыніцы былі вельмі абмежаванымі. Вялікае значэнне мелі таксама праведзеныя Скарынаўкай міжнародныя канферэнцыі, семінары і чытанні па пытаннях беларускай культуры. Многія з тых мерапрыемстваў былі прысвечаны юбілеям нашых вядомых дзеячаў (Янкі Купалы і Якуба Коласа, Францыска Скарыны, Вацлава Ластоўскага, Івана і Антона Луцкевічаў, Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча), пытанням культурнай спадчыны Беларусі, рэлігійнага жыцця.

З той жа мэтай вывучэння і папулярызацыі беларускай культуры Скарынаўская бібліятэка арганізуе штогадовыя курсы лекцый па беларусазнаўстве, сустрэчы з гасцямі з Беларусі, вечары паэзіі, а таксама вядзе актыўную выдавецкую дзейнасць. Багатыя бібліятэчныя зборы на працягу ўжо некалькіх дзесяцігоддзяў з'яўляюцца спрыяльнай глебай для падрыхтоўкі значных навуковых і папулярных выданняў. Напрыклад, на аснове набытага на аўкцыёне рукапісу XVII стагоддзя Чэславам Сіповічам была падрыхтавана праца "Пантыфікальная літургія Святога Яна Залатавуста". Бібліятэчныя зборы сталі асновай для стварэння такіх сур'ёзных публікацый, як "Гісторыя беларускай літаратуры" Арнольда Макміліна, "Беларуская дзяржаўнасць" Зоры і Вітаўта Кіпеляў, "Беларускі царкоўны спеўнік" Гая Пікарды, "Біскуп Чэслаў Сіповіч: святар і беларус" Аляксандра Надсана. Бібліятэка падрыхтавала шэраг аглядаў беларусазнаўчых і бібліяграфічных прац.

Зборы бібліятэкі дазволілі зрабіць нямала сапраўдных адкрыццяў. Напрыклад, яны дапамагалі прафесару Ерусалімскага ўніверсітэта Мошэ Альтбаўэру разам з Аляксандрам Надсанам удакладніць год выдання першай кнігі ў Вялікім Княстве Літоўскім — "Малой падарожнай кніжкі" Скарыны — і датаваць яе не 1525, а 1522 годам. З упэўненасцю можна казаць, што без гэтай бібліятэкі не адбылося б і многіх іншых адкрыццяў у замежным беларусазнаўстве. Ды і само яно выглядала б шмат больш сціплым.

Такі значны збор беларусікі быў сабраны грамадскімі сіламі. А калі сказаць больш дакладна, то сіламі пэўных асоб. І першая з тых асоб — Аляксандр Надсан, які ад самага адкрыцця (1971 год) нязменна выконвае функцыі бібліятэкара, захавальніка фондаў і экскурсавода па зборах Скарынаўскай бібліятэкі.

Ад самага ўзнікнення Скарынаўка існуе на добраахвотных ахвяраваннях, якія рэгулярна паступалі на карысць бібліятэкі. Сёння ўзнікаюць сур'ёзныя цяжкасці з фінансавым забеспячэннем дзейнасці гэтага беларускага асяродку. Зменшылася і колькасць яго наведвальнікаў. Па-першае, ужо мала засталося ў Брытаніі беларускіх эмігрантаў, той хвалі, якая стварала і падтрымлівала гэты асяродак. Па-другое, асноўная частка фінансавых сродкаў бібліятэкі ў 1997 годзе была аддадзена на набыццё канвалюта з 5 пражскіх выданняў Скарыны. Крадзеж гэтага канвалюта ў 2003 годзе стаў ашаламляльным ударам. Па-трэцяе, пасля падзення "жалезнай заслоны" і распаду СССР значна пашырыліся магчымасці непасрэднага ўзаемадзеяння заходніх даследчыкаў з беларускімі арганізацыямі, і патрэба ў лонданскай бібліятэцы зменшылася. Урэшце, многія фонды Скарынаўкі (найперш, рукапісы і архіўныя матэрыялы) пакуль недастаткова апрацаваны, апісаны і таму — мала вядомы і даступны карыстальнікам. Аднак багацце фондаў і наяўнасць моцных традыцый у прапагандзе беларускай культуры на Захадзе дазваляюць нам спадзявацца, што магчымасці для далейшай плённай працы не хутка будуць вычарпаны.

***На здымку: першыя выданні беларускіх аўтараў.***

## Юрыдычная кансультацыя

**Рубрыку вядзе галоўны спецыяліст упраўлення права і міжнародных дагавораў Нацыянальнага цэнтра інтэлектуальнай уласнасці Андрэй ЛУЧАНОК.**

# Без згоды аўтара…

Законам Рэспублікі Беларусь "Аб аўтарскім праве і сумежных правах" ад 17 мая 2011 года прадугледжаны выпадкі свабоднага выкарыстання так званых аб'ектаў аўтарскага права і сумежных правоў. Сёння мы разгледзім варыянты, пры якіх дапускаецца выкарыстанне гэтых аб'ектаў без згоды аўтараў і іншых праваўладальнікаў. І без выплаты ім ўзнагароджання. Але абумовімся: ва ўсіх гэтых выпадках павінны быць захаваныя асабістыя немаёмасныя правы аўтараў і выканаўцаў. Размова ідзе пра права аўтарства, права на імя, права на абнародаванне, права на адкліканне і права на недатыкальнасць твора.

Новы Закон дазваляе ўзнаўленне ўрыўкаў правамерна абнародаваных твораў (цытаванне) не толькі ў арыгінале (як гэта было прадугледжана ў старым Законе). Але таксама і ў перакладзе, у даследчых, адукацыйных, палемічных, крытычных або інфармацыйных мэтах і ў тым аб'ёме, які апраўданы мэтай цытавання.

Новаўвядзеннем у Законе з'яўляецца таксама норма, адпаведна з якой арыгіналы твораў выяўленчага мастацтва, рукапісаў твораў пісьменнікаў, кампазітараў і вучоных могуць быць публічна паказаны асобай, якая правамерна валодае арыгіналам твора, а таксама ўзноўлены ў каталогах выставак і выданнях, прысвечаных калекцыям такіх твораў.

Фатаграфічны твор, твор архітэктуры, выяўленчага мастацтва (жывапісу, графікі, скульптуры, літаграфіі і інш.) могуць быць узноўлены, перададзены ў эфір ці па кабелі, а таксама даведзены да ўсеагульнага ведама іншым чынам (напрыклад, праз інтэрнэт) у выпадку, калі такія творы пастаянна знаходзяцца ў месцы, адкрытым для свабоднага наведвання.

У новым Законе з'явіліся таксама нормы свабоднага выкарыстання твораў у сродках масавай інфармацыі.

Так, апублікаваныя ў газетах і часопісах артыкулы па эканамічных, палітычных, сацыяльных і рэлігійных пытаннях альбо перададзеныя ў эфір ці па кабелі, размешчаныя ў інтэрнэце могуць быць узноўлены ў друкаваных сродках масавай інфармацыі, а таксама даведзены да ўсеагульнага ведама іншым чынам, калі такія дзеянні не былі спецыяльна забароненыя аўтарам ці іншым праваўладальнікам.

Публічна прамоўленыя палітычныя выступленні, звароты, даклады і іншыя аналагічныя творы могуць быць узноўлены ў сродках масавай інфармацыі, а таксама даведзеныя для ўсеагульнага ведама іншым чынам у тым аб'ёме, які апраўданы інфармацыйнай мэтай.

У складзе аглядаў бягучых падзей у аб'ёме, апраўданым інфармацыйнай мэтай, могуць быць узноўлены ў сродках масавай інфармацыі, а таксама даведзены для ўсеагульнага ведама іншым чынам творы і іх часткі, якія былі ўбачаныя ці пачутыя ў ходзе такіх падзей.

# Тэатральны мастак і яго бібліятэка

Алена ДЗЕНІСЕНКА,
навуковы супрацоўнік
аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў
ЦНБ імя Якуба Коласа
Нацыянальнай акадэміі
навук Беларусі

**Ліпа Кроль належыць да пакалення беларускіх мастакоў, чые творчыя біяграфіі пачыналіся на рубяжы 1920—1930-х гг. Асноўны напрамак дзейнасці — тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва і плакатны жывапіс. Створаныя пры яго ўдзеле музейныя экспазіцыі сталі прыкметнымі вехамі ў развіцці беларускага афарміцельскага мастацтва.**

Дастаткова згадаць, што Л.Кроль аформіў спектаклі “Канец дружбы” К. Крапівы (1934) у БДТ-1 (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), “Настаўнік танцаў” Лопэ дэ Вегі (1952), “Несцерка” В. Вольскага (1941), “Ноч памылак” О. Голдсміта і “У бэзавым садзе” Ц. Саладара (абодва 1954) у Беларускім дзяржаўным тэатры імя Якуба Коласа, “Блудны сын” Э. Ранета (1958) у Дзяржаўным рускім тэатры БССР. Сярод яго плакатаў — “Рэлігія — цемра” (1958), “Будзем пільнымі” (1961), “Дружба сілу нам дае” (1968) ды іншыя. За дасягненні ў галіне афарміцельскага мастацтва Л. Кроль быў узнагароджаны Граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Пасля яго смерці ўдава мастака Зінаіда Кроль-Сяргеева звярнулася з просьбай да адміністрацыі Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук БССР (цяпер Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) прыняць у дар калекцыю яе мужа. У шафах Л. Кроля захоўваліся манаграфіі пра любімых жывапісцаў, пра народную творчасць, альбомы са здымкамі найбуйнейшых карцінных галерэй свету і “малых” музеяў, папкі з кітайскімі гравюрамі, кнігі па архітэктуры, гісторыі тэатра, касцюма, шрыфтоў. Усяго каля тысячы экзэмпляраў.

Віцэ-прэзідэнт Акадэміі Навук БССР акадэмік К. Атраховіч (Кандрат Крапіва) выказаў падзяку ўдаве мастака і запэўніў, што бібліятэка Ліпы Кроля будзе служыць важнай справе развіцця беларускай навукі і культуры.

Кнігазбор Кроля — гэта выданні XX ст., стагоддзя росквіту графікі. Больш як палову складаюць альбомы графікі на замежных мовах, выдадзеныя ў Германіі, Венгрыі, Кітаі, Польшчы, Чэхаславакіі, Францыі і інш. Прычым, пераважаюць альбомы нямецкіх друкарняў. У іх змешчаны кніжныя ілюстрацыі мастакоў 1950 — 1970-х гг.: П. Акермана, Г. Бэмэра, А. Вэбэра, Г. Краца, А. Крэдэля, Г. Мюлера, Х. Яра.

Сярод альбомаў кнігазбору — выданні знакамітага берлінскага дома друку “Дітц Фэрлаг” (Dietz Verlag), які славіцца сваімі дасягненнямі ў галіне мастацкага афармлення грамадска-палітычнай літаратуры.

Багата і прадстаўніча аформлены кнігі Дрэздэнскага выдавецтва літаратуры па пытаннях мастацтва “Фэрлаг дэр Кунст” (Verlag der Kunst), якое было заснавана ў 1952 г. Гэта выданні серый “Маленькія сшыткі па мастацтве”, “Цвінгер Бюхер” (па пытаннях графікі), “Мастакі сучаснасці”. Альбомы серый “Сусветныя цэнтры мастацтва” і “Італьянскі жывапіс”, выдадзеныя ўдрукарні “Эдзіцыён Лейпцыг” (Edition Leipzig), заснаванай у 1959 г.

Творчасць французскіх мастакоў розных напрамкаў (А. Мацiса, П. Пікасо, А. Сеганзака, Л.-А. Маро, Р. Дзюфі, Ж. Руо, М. Уламінка, М. Ларансэна і інш.) адлюстравана ў шыкоўных альбомах выдавецтваў “Изобразительное искусство”, “Издательство иностранной литературы”, “Искусство”, “Советский художник”. У 1960 — 1970-я гг. маскоўскае выдавецтва “Искусство” выпусціла серыю кніг “Жыццё ў мастацтве” — пра творчасць французскіх мастакоў-імпрэсіяністаў XIX—XX стст. У бібліятэцы налічваецца звыш пяцідзесяці альбомаў гэтага выдавецтва.

Значную частку калекцыі складае руская графіка. Гэта альбомы і мастацкая літаратура з ілюстрацыямі рускіх мастакоў.

У кнігазборы Л. Кроля самыя раннія — выданні 1930 — 1940-х гг., якія выйшлі ў друкарнях “Советский писатель” (Сонеты Шекспира в переводах С. Маршака), “Искусство” (Графика. Ленинградские художники: альбом репродукций і інш.), “Советский художник”, у Дзяржаўным выдавецтве выяўленчых мастацтваў, выдавецтве Дзяржаўнага музея выяўленчага мастацтва імя А. С. Пушкіна. Яны прадстаўляюць “жывы” матэрыял для гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў.

Альбомы графікі 1950 — 1960-х гг. адлюстроўваюць працы мастакоў, якія прайшлі “школу добротной тоновой серийной иллюстрации”, і мастакоў-афарміцеляў, майстроў выдавецкай справы і паліграфіі.

Беларуская калекцыя прадстаўлена кнігамі айчынных выдавецтваў “Беларусь”, “Вышэйшая школа”, “Навука і тэхніка”, Дзяржаўнага вучэбна-педагагічнага выдавецтва БССР, Дзяржаўнага выдавецтва БССР (рэдакцыя мастацкай літаратуры), Выдавецтва АН БССР і інш. На кожнай кнізе — экслібрыс уладальніка бібліятэкі.

Частка кніг у бібліятэцы Л. Кроля — вучэбная літаратура і даследаванні па архітэктуры, тэорыі і гісторыі мастацтва, кнігазнаўстве.

Але ў кнігазборы не толькі спецыяльная літаратура. Шмат тут альбомаў з матэрыяламі карцінных галерэй свету, па архітэктуры, гісторыі тэатра, касцюма.

Кніжнае мастацтва розных эпох пакінула нам бліскучыя помнікі, насычаныя духам свайго часу. У гэтым сэнсе калекцыя Л. Кроля з’яўляецца яркім прыкладам кніжнага мастацтва сваёй эпохі і, будзем спадзявацца, паслужыць яшчэ не аднаму пакаленню беларускіх мастакоў.



*На здымку: экслібрыс Л. Кроля*

# Падарунак ад творцы

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Рудой — цікавы аўтар і цікавы суразмоўца. Яму, капітану першага рангу, былому камандзіру падводнай атамнай лодкі, старшыні Верхнядзвінскага аддзялення Беларускага саюза афіцэраў, ёсць пра што расказаць чытачам. Асабліва юнакам, якія рыхтуюцца стаць абаронцамі Радзімы альбо ўжо служаць у войску. Ці трэба здзіўляцца, што Васіля Іосіфавіча так часта запрашаюць выступіць перад моладдзю!**

Ён праводзіць урокі Мужнасці ў школах, выступае перад дапрызыўнікамі, сустракаецца са студэнтамі Наваполацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, Віцебскай дзяржаўнай ветэрынарнай акадэміі, Верхнядзвінскага каледжа. Маладыя людзі задаюць аўтару папулярных кніг “Кліч акіяна”, “Шалёны экіпаж”, “Апошні камісар” мноства пытанняў пра яго маладосць, цяжкасці і рамантыку службы на моры. Для многіх з іх стала адкрыццём, што Васіль Іосіфавіч яшчэ і паэт, што ў яго ёсць яркія гумарыстычныя творы. Моладзь даведалася ад пісьменніка і пра справы Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі.

Самай запамінальнай стала сустрэча Васіля Рудога з пагранічнікамі ў Верхнядзвінскім раёне. Пісьменнік падарыў воінам восем кніг, якія мусяць стаць першымі ў бібліятэчным фондзе мясцовых вайскоўцаў.

— Я пабачыў моладзь дапытлівую, сур’ёзную, рознабаковa развітую, і гэта прыемна. Гэта значыць, у краіны ёсць будучыня,— кажа пісьменнік. — Тым больш важна своечасова даць магчымасць маладым людзям сустрэцца з добрай, патрэбнай літаратурай.

Члены Віцебскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі прынялі рашэнне далучыць да кніжнага падарунка Васіля Рудога свае кнігі з аўтографамі. Няхай новая бібліятэка ўзбагачаецца!

## Праектная дзейнасць




# «Каб ведалі» сёння

**Да 100-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна падрыхтавалі віртуальную выстаўку “Рэаліі жыцця Максіма Танка” ў рамках творчага праекта “У сугуччы мінулага з сучасным”. Выстаўка дае магчымасць пазнаёміцца з біяграфіяй паэта, яго літаратурнай спадчынай, крытычнымі артыкуламі, у якіх аналізуецца творчасць літаратара. Пра ролю і значэнне такіх экспазіцый у сецыве распавядае дырэктар бібліятэкі Ілона Сарокіна.**

Ірына ТУЛУПАВА

**— Ілона Уладзіміраўна, бібліятэкі асвойваюць віртуальную прастору досыць актыўна. І робяць для сябе пэўныя высновы. Як вы думаеце, чым адрозніваецца віртуальная літаратурная выстаўка ад рэальнай? Якія ў яе асаблівасці? З пункту гледжання існавання ў інфармацыйнай прасторы якая з іх мае перавагі?**

— Віртуальная выстаўка — гэта новы від інфармацыйна-бібліятэчнага абслугоўвання з выкарыстаннем магчымасцей сеткі Інтэрнэт. Гэты інфармацыйны рэсурс, у адрозненне ад звычайнай бібліятэчнай выстаўкі, не абмяжоўвае сваіх наведвальнікаў у часе і прасторы — матэрыялы для агляду, азнаямлення і выкарыстання прадастаўляюцца аддаленым наведвальнікам кругласутачна і незалежна ад іх месцазнаходжання. Напрыклад, у 2011 годзе нашы віртуальныя выстаўкі наведала больш як 150 тысяч інтэрнэт-карыстальнікаў з 59 краін свету. Акрамя таго, віртуальныя выстаўкі павышаюць эфектыўнасць пошуку інфармацыі, пашыраюць спосаб падачы неабходных матэрыялаў (тэксты, графіка, аўдыё, відэа і інш.), што з’яўляецца несумненнай перавагай перад традыцыйнымі выстаўкамі.

Тым не менш традыцыйныя выстаўкі таксама маюць свае перавагі. Напрыклад, у карыстальніка ёсць магчымасць патрымаць у руках кнігу ці часопіс, пагартаць іх старонкі, адчуць повязь часоў, нарэшце, атрымаць эстэтычнае задавальненне ад якасна аформленай выстаўкі. А якой выстаўцы аддаць перавагу — традыцыйнай ці віртуальнай — выбіраць самому чалавеку ў залежнасці ад абставін.

**— Рэальная выстаўка мае абавязковым элементам яе ўрачыстае адкрыццё. А віртуальная?**

— Абавязковым элементам работы любой выстаўкі з’яўляецца яе прэзентацыя. У якасці прэзентацыі віртуальнай выстаўкі выступае размяшчэнне анонсу і на сайце нашай бібліятэкі, і на іншых інфармацыйных сайтах. Акрамя таго, прэзентацыі тэматычных віртуальных выставак адбываюцца на буйных мерапрыемствах. Напрыклад, на творчай сустрэчы з магілёўскім мастаком П. Печаньковым, дзе ён прадставіў палатно Чарнобыльскай тэматыкі “Дамоклава ластаўка”, адбылася прэзентацыя інтэрнэт-праекта, прысвечанага 25-годдзю трагедыі — “Пад Чарнобыльскім попелам”.

**— Якога наведвальніка чакаеце на выстаўцы, прысвечанай 100-годдзю Максіма Танка?**

— Выстаўка адрасавана шырокаму колу наведвальнікаў: філолагам, аматарам роднага слова, знаўцам літаратурнай спадчыны Максіма Танка, а таксама ўсім, хто цікавіцца творчасцю паэта. Асабліва карыснай яна будзе студэнтам, старшакласнікам, якія вывучаюць творчасць паэта, а таксама выкладчыкам беларускай літаратуры ў якасці дадатковай крыніцы інфармацыі.

**— З чаго складаецца змест выстаўкі? Якія яе самыя ўнікальныя “экспанаты”?**

— Выстаўка складаецца з чатырох раздзелаў. У першым раздзеле, “Максім Танк”, змешчаны яго біяграфічныя звесткі, фатаграфіі розных гадоў, а таксама спіс дадатковых матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць. У другім раздзеле, “Кнігі Максіма Танка”, прадстаўлены выданні паэта з фонду бібліятэкі, у тым ліку першы паэтычны зборнік “На этапах” 1936 г. выдання, паэма “Янук Сяліба” — выданне ваеннай пары, першы пасляваенны зборнік “Каб ведалі”. Трэці раздзел выстаўкі, “Літаратура пра Максіма Танка”, змяшчае матэрыялы вядомых літаратуразнаўцаў Д. Бугаёва, В. Рагойшы, М. Арочкі пра жыццё і творчасць паэта. У чацвёртым раздзеле размешчаны поўныя тэксты найбольш вядомых яго вершаў, у тым ліку для дзяцей.

Унікальным “экспанатам” з’яўляецца відэафільм “Пясняр беларускага народа” з Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў, зняты з нагоды прысуджэння Максіму Танку Сталінскай прэміі за зборнік вершаў “Каб ведалі”.

**— Ці пашыраюць раздзелы “дадатковыя матэрыялы” і “інтэрнэт-рэсурсы” межы выстаўкі?**

— Дадатковыя матэрыялы змяшчаюць спасылкі на поўныя тэксты артыкулаў, надрукаваных у літаратуразнаўчых крыніцах і на старонках перыядычнага друку. Раздзел “Інтэрнэт-рэсурсы” дае пералік іншых інфармацыйных сайтаў, якія змяшчаюць звесткі пра паэта і яго творчасць, і забяспечваюць хуткі выхад на іх. Гэтыя раздзелы значна спрошчваюць пошук інфармацыі, пашыраюць яе межы і эканомяць час карыстальніка.

Першы крок

# З легендаў і міфаў Старажытнай Грэцыі



**Сваю першую бібліятэку згадвае дырэктар РУП "Белсаюздрук" Ігар Дудзіч:**

— Першая мая бібліятэка з'явілася яшчэ ў савецкія часы. Кніга тады цанілася вельмі высока, бацькі мелі свой кнігазбор — па тым часе вельмі добры. Шмат чаго ад той бібліятэкі і цяпер засталося: усе кнігі вельмі шанаваліся. А яркі ўспамін дзяцінства — казкі. Падабаліся мне і "Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі". Гэта самая любімая кніга таго ўзросту, калі мы ўжо можам не толькі карцінкі разглядваць, а і чытаць.

Цяпер, на жаль, для чытання застаецца няшмат часу. Навіны ў асноўным атрымліваем з інтэрнэту, з газет, тэлебачання. А кнігі патрабуюць удумлівага, няспешнага чытання. Нешта перагортваю са свайго "старога знаёмага", каб узнавіць у памяці некаторыя старонкі. Але на тое новае, што нельга прапусціць, стараюся знайсці час. Чытаю таксама Юрыя Палякова, асабліва ранняга, Эдуарда Топаля, Марыну Сцяпнову.

Думаю, роля бібліятэкі ў сучасным грамадстве праяўляецца якраз у тым, што чытач мае магчымасць знайсці любую кнігу, нават тую, якую цяпер па эканамічных прычынах складана купіць. Асабліва надта дарагую ці вялікую па фармаце. Ён можа пагартаць яе, прачытаць у бібліятэцы. Фактычна — атрымаць выданне на нейкі час ва ўласнасць і пасля вярнуць яго. Такім чынам пашыраюцца магчымасці чытачоў. Друкаваныя выданні сёння, на жаль, дарагія і даражаюць: за кошт паліграфіі, паперы. Таму неабходна, каб кнігі, якія выходзяць у свет, былі ў поўным асартыменце ў бібліятэцы. Каб можна было любую з іх знайсці і прачытаць.

# «Жывы аўтограф» — жывы гук!

**У Год кнігі запланаваны шэраг мерапрыемстваў па падтрымцы чытання, папулярызацыі нацыянальнай культуры і літаратуры. Адзін з праектаў — "Жывы аўтограф" — будзе рэалізоўвацца ў бібліятэках Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы.**

**Алена ДРАПКО**

Збіранне калекцый кніг з аўтографамі — добрая традыцыя ўсіх кніжніц. У Гомельскай гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна яна таксама прыжылася. У 2009 годзе пасля пераезду ў новы будынак тут пачалі шукаць шляхі папаўнення фонду бібліятэкі ды пашырэння паслуг для карыстальнікаў. У сабраных фондах — экспанаты многіх знакамітых пісьменнікаў і паэтаў. Ідэя з дапамогай такой калекцыі абазначыць культурны і гістарычны партрэт горада стала падмуркам стварэння Музея аўтографа, каб калекцыяніраваць і зберагаць менавіта той аўтограф, які тым ці іншым чынам звязаны з горадам, распаўсюджваць краязнаўчыя веды сярод насельніцтва і прыцягнуць увагу да грамадскай, культурна-гістарычнай спадчыны, да беларускай літаратуры і мастацтва. На сённяшні дзень тут знаходзяцца 943 экспанаты. Некаторыя з іх перадалі самі гараджане. Беражліва захоўваюцца ў бібліятэцы кнігі з надпісамі, фотаздымкі, асабістыя рэчы людзей, якія знітаваны з горадам над Сожам. Гэтымі днямі ў музеі аўтографа экспануецца выстаўка жывапісу маладой мастачкі Анастасіі Шабалтас "Дзякуй". Сустрэча з аўтарам адбылася пры канцы мінулага года.



*На здымку: сустрэча з мастачкай А. Шабалтас (у цэнтры).*

У аўтографах — гісторыі тых, хто аднойчы быў госцем гомельскіх бібліятэк, людзей, якія жывуць ці жылі на гэтай зямлі. Сярод знаных імёнаў — выбітныя літаратары Беларусі Іван Шамякін, Рыгор Барадулін, з Расіі – Аляксандр Салжаніцын, Яўген Еўтушэнка, Агнія Барто. Тут таксама можна пабачыць аўтографы мастакоў, спартсменаў, рэлігійных і грамадскіх дзеячаў, вядомых гістарычных асоб, музыкантаў і іншых цікавых людзей — Юрыя Башмета, Пятра Клімука, Юрыя Гагарына, Германа Цітова, Ігара Алоўнікава, Валерыя Меладзэ. Супрацоўнікі бібліятэкі стварылі электронную базу дадзеных, дзе размешчана інфармацыя па гістарыяграфіі аўтографаў.

У рамках праекта "Жывы аўтограф" гамяльчане і іх госці будуць мець магчымасць сустрэцца са знакамітымі землякамі — пісьменнікамі, паэтамі, мастакамі, вучонымі-даследчыкамі, якія ствараюць сучасную гісторыю горада.

— Распрацоўваць праект мы пачалі ўжо пры канцы мінулага года, — распавядае намеснік дырэктара па бібліятэчнай працы Жанна Еўдачэнка. — Бо важна не толькі збіраць аўтографы, але і прадастаўляць магчымасць нашым чытачам сустрэцца з высокадухоўнымі людзьмі, якім ёсць што сказаць. Для гэтага арганізоўваем выстаўкі, прэзентацыі новых твораў.

Першыя крокі маштабнага праекта Гомельскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы ўжо ацэнены. Да прыкладу, шмат станоўчых эмоцый прынесла нядаўняя сустрэча ў гарадской дзіцячай бібліятэцы № 5 імя С. Маршака з пісьменнікам-земляком Андрэем Матвіенкам, вядомым па публікацыях у часопісах "Родная прырода", "Юны натураліст". Для чытачоў была падрыхтаваная выстаўка, прысвечаная яго творчасці. А сам аўтар распавёў пра планы і тое, што створана на сённяшні дзень.

Правядзенне такіх сустрэч плануюць і іншыя бібліятэкі. Так, Гомельская гарадская бібліятэка імя А. І. Герцэна 16 лютага запрашае на сустрэчу з пісьменнікам-даследчыкам Аляксандрам Рагалёвым.

Зачытаныя кнігі

**Рэйтынг найбольш чытаемых кніг за студзень 2012 г. у Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І. Х. Каладзеева**

***Зала беларусікі і краязнаўства***

1. Асветнікі зямлі Беларускай: энцыклапедычны даведнік. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2001.
2. Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. У 2 т. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2005 — 2006.
3. Лякин, В. Белорусские поля сражений 1812 года. — Мозырь: КПУП "Колор", 2009.
4. Современная Беларусь: энциклопедический справочник. В 3 т. — Минск: Беларуская навука, 2006 — 2007.
5. Ульянов, Э. И. Регулярная пехота 1801 — 1855. — Москва: АСТ, 1996.

***Зала мастацтваў***

1. Гейман, Н. Задверье: роман. — Москва: АСТ, 2008.
2. Дмитриева, Н. А. Краткая история искусств. — Москва: АСТ-ПРЕСС, 2000.
3. Лазука, Б. А. Гісторыя мастацтваў. — Мінск: Беларусь, 2003.
4. Сеттерфилд, Д. Тринадцатая сказка: роман. — Санкт-Петербург: Азбука-классика, 2008.
5. Чантурия, В. А. Памятники и памятные места Беларуси. — Смоленск: Русич, 2007.

***Агульная зала***

1. Брасс, А. А. Менеджмент: пособие для подготовки к экзаменам. — Минск: Современная школа, 2006.
2. Головачёв, А. С. Экономика предприятия: учеб. пособие. — Минск: Высшая школа, 2008.
3. Информатика. Базовый курс / под ред. С. В. Симоновича. — Санкт-Петербург: Питер, 2007.
4. Социология: учебник. — 2-е изд, перераб. и доп. — Москва: Издательско-книготорговый центр "Маркетинг", 2002.
5. Философия: учеб. пособие для студентов высш. учеб. заведений. — Минск: РИВШ, 2006.

***Духоўна-асветніцкі цэнтр***

1. Агафонов Н. (протоиер.) Жены-мироносицы: исторический роман. — Москва: Издательство Сретенского монастыря, 2009.
2. Иоанн (Кронштадтский; св. праведный). Моя жизнь во Христе или минуты духовного трезвения и созерцания, благоговейного чувства, душевного исправления и покоя в Боге. — Минск: Издательство Белорусского Экзархата, 2005.
3. Пастырь добрый: жизнь и труды московского старца протоиерея Алексея Мечева. — Москва: Серда-Пресс, 2000.
4. Торик А. (протоиер.) Флавиан: повесть. — Москва: Лепта-Пресс, 2005.
5. Шмеман А. (протоиер.) Дневники. 1973 — 1983. — Москва: Русский путь, 2005.

Простыя рэчы

# Брэст у дзьмухаўцах



**Ірына ТУЛУПАВА, фота Генадзя Казлоўскага і Мікалая Чаберкуса**

**Гэтыя фота даслала мне Галіна Бурына — намеснік дырэктара па бібліятэчнай працы Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага. "Якая прыгажосць!" — толькі і выдыхнула я, зірнуўшы на здымкі!**

Здымкі! Усведамленне гэтага прыйшло з другім выдыхам. Умеем-такі мы ствараць прыгажосць вакол сябе. І бачыць яе! Парадавалася за чытачоў кніжніцы: ім таксама падкажуць, што артыкул Алены Жук з газеты "Вечерний Брест", аздоблены такімі ілюстрацыямі, абавязкова трэба прачытаць.

"У зімы на самай справе шмат фарбаў" — сцвярджае брэсцкая "Вячорка". І распавядае пра нашыя штодзённыя ды святочныя клопаты. Зразумела, што такое афармленне набыў горад над Бугам у святочныя дні навагоддзя. Сапраўдная сімфонія колераў! Лета пасярод зімы! Ці не пра гэта марыць кожны — каб лепшыя ўражанні жыцця заўсёды былі з намі? Каб не забывалася, як патаналі ногі ў снежных сумётах сélетняй зімой і як летуценна дзівіліся першым жоўтым кветачкам дзьмухаўцоў увесну, як на вачах яны ператвараліся ў белы пух. І ён ляцеў па свеце, несучы на сваіх крылцах імгненні сонечнага святла. Каб пасля вось так, як у Брэсце, прыпыніцца на разгалінаванай кроне дрэў. І ўжо доўгімі зімовымі вечарамі асвятляць вуліцы.

А вось ці захаваем мы такі прыгожы, інтэлігентны выгляд вуліц (размова, зразумела, не толькі пра Брэст, а і пра іншыя нашы гарады ды мястэчкі), ці ўкаранім культуру і ў паўсядзённае жыццё, у многім залежыць ад нас. Ад таго, ці зможам аб'яднаць імкненні да гэтага блізкіх і знаёмых людзей.

…І прыгадаўся брэсцкі помнік Кажану. Тое, як ён, гэты Кажан, ажыў у казцы пісьменніцы Раісы Баравіковай. Ёсць, напэўна, у горадзе над Бугам нешта такое, што акрыляе, спрыяе натхненню, творчасці. І не толькі літаратурнай. Хаця якраз яна сілаю мастацтва, прыгожага слова ўвасабляе ў гісторыі рэаліі жыцця. Згадайма: менавіта тут з'явіліся праекты, добра вядомыя па ўсёй Беларусі: "Літаратурная карта Берасцейшчыны", "Лунінская восень", "Берасцейскія кнігазборы", "Берасцейские вогнішча", якія рэалізоўца сумесна з РВУ "Літаратура і Мастацтва". Па кропельцы збіраецца лепшае, што створана чалавекам. І актыўным удзельнікам такіх праектаў, а часта — і іх ініцыятарам — выступае абласная бібліятэка. І ў гэтым — таксама творчасць яе супрацоўнікаў.



# Ці ёсць душа ў лялькі?

**У Літаратурным музеі Петруся Броўкі адкрылася выстаўка "Памяць душы маёй", на якой прадстаўлены незвычайныя лялькі дзесяці аўтараў — міфалагічныя, абрадавыя і лялькі-абярэгі, выкананыя ў розных тэхніках.**

**Ульяна БЯЛОВА, фота аўтара**

Лялькі жывуць у Беларусі побач з людзьмі ўжо шмат стагоддзяў. Раней чалавек не ўяўляў сябе і ўласнага побыту без іх. Прынамсі, жыхары вёсак верылі ў незвычайныя магчымасці такіх абярэгаў. На некаторыя нават маліліся, таму гуляць з імі забаранялася. Лялька ўдзельнічала ў абрадах, дапамагала пры хваробах, засцерагала ад пакут.

Удзельніца выстаўкі, мастачка і майстар народнай творчасці Таццяна Трушына стварыла шмат абрадавых лялек і абярэгаў у традыцыйным беларускім стылі. Яны маюць свае імёны і гісторыі.



Першай цацкай, якую атрымліваў чалавек, была лялька-"немаўля". Яе выраблялі кожная маці, будучы яшчэ нявестай. Сяброўкі дапамагалі ёй катаць тканіну, а потым накідвалі на "немаўля" хустачку. Стваралі шмат такіх лялек, таму што жадалі маладой мець шмат дзяцей. Калі нараджалася дзіця, яму адразу клалі ў калыску ляльку-абярэг і пакідалі яе там на 40 дзён альбо да хрышчэння. Пасля таго, як малое было пахрышчана, ляльку перавязвалі ніткачкай, каб ніякая злая сіла не пашкодзіла дзіцяці.

Ляльку-"зярнушку" набівалі зернем або соллю — яна дапамагала атрымаць добры ўраджай, з яе ўшанавання пачыналася кожная сяўба.

"Выхвалку" — ляльку з тоненькімі ножкамі, у доўгай прыгожай спадніцы — рабілі са святочных хустачак. Дапамагала дзяўчатам хутчэй знайсці сабе каханага.

У нашых дзядоў і бабуль былі памагатыя на ўсе жыццёвыя выпадкі. "Сонніца" звязвалася з дзвюх абрэзкаў па руху гадзіннікавай стрэлкі, калі чалавек не мог заснуць. З чырвоных і жоўтых ваўняных нітак рабілі цацачкі, аздаблялі іх цестам і падвешвалі на дрэвы — яны імгненна прыцягвалі жаўрукоў і вясну. "Уцешніца" з караламі з цукерак магла супакоіць самае гарэзлівае дзіця. Падлеткі рабілі сабе маленькія лялечкі, якія можна было пакласці ў кішэню.

Пра беларускую міфалогію можна даведацца па дзвюх асабліва аздобленых



ляльках. Гэта "Зюзя" — бог зімы і сцюжы і "Лёля" — багіня вясны. Каржакаватыя магутны Зюзя жыў у лесе, хадзіў басанож і наўрад ці быў такім добрым, як Дзед Мароз. З Лёляй звязана народная традыцыя: выбіралі самую прыгожую дзяўчыну, садзілі на лаўку, а побач з ёю ставілі каравай, сыр, масла, малако, кошык з яйкамі і мноства кветак, дзяўчаты вадзілі вакол яе карагоды, плялі вянкі і сустракалі вясну песнямі.

Але на выстаўцы ёсць і лялькі, якія можна назваць гістарычным партрэтам. Вольга Вайніцкая прадставіла свайго "Беларуса" ў шляхецкай вопратцы з чырвонага аксаміту, з французскім гадзіннікам. Стварыць такі вобраз ёй дапамагло вывучэнне гісторыі беларускага касцюма.

Шмат пакаленняў чалавек атачаў сябе лялькамі-абярэгамі, рабіў іх падобнымі да сябе, верыў у іх незвычайныя магчымасці. І яны сапраўды дапамагалі людзям, таму што ім не толькі даручалі сакрэты і спадзяванні — у іх укладалі душу.

***На здымках: лялькі "Баба на самавары" і "Зюзя" Таццяны Трушынай.***

З глыбінкі

## На радзіме Шырмы

Пружаншчына адзначыла 120-годдзе з дня нараджэння свайго славутага земляка Рыгора Шырмы вялікім канцэртам у Палацы культуры. На мерапрыемства прыехалі родныя Шырмы, у тым ліку ўнукі Раман і Аляксей.

Частка сцэны ўяўляла сабой хату, дзе за сталом сядзеў сялянскі хлопец і расказваў пра сваё жыццё. У вобразе Рыгора Шырмы выступіў малады рэжысёр Палаца культуры Алег Строк, а аповед складаўся з успамінаў народнага артыста, якія некалі запісаў Васіль Ліцвінка.

У канцэрце ўзялі ўдзел народны камерны хор Палаца культуры (мастацкі кіраўнік Я. Малайчук), фальклорны калектыў "Смалянічка", дзіцячы ўзорны аркестр народных інструментаў "Скамарошына", народны фальклорны ансамбль "Бабіна лета", ансамбль струнных інструментаў "ARCHI", фальклорны гурт Дзіцячай школы мастацтваў, народны хор "Вербніца", народны тэатр танца "Ойра", народны ансамбль песні "Ліцвіны", вакальная група "Пружаначка", народны хор "Чырвоны гваздзік". Большасць песень, што гучалі ў гэты вечар са сцэны Пружанскага Палаца культуры, некалі адшукаў і запісаў сам Рыгор Шырма.

Начальнік аддзела культуры райвыканкама Канстанцін Панімаш запэўніў, што святкаванне будзе мець працяг:, у маі аматары народнай песні сустрэнуцца ў в. Шакуны, на малой радзіме Рыгора Раманавіча, на фестывалі "Пеўчае поле".

**Кацярына ПАШКЕВІЧ, г. Пружаны**

## Песні ад сэрца

У аграгарадку Судкова Хойніцкага раёна спяваюць часта і ўсюды: дома, у полі, на вяселлі. Найбольш ахвочыя збіраюцца ў мясцовым Доме культуры на рэпетыцыі народнага вакальнага ансамбля "Песні над Палессем". Званне "народны" калектыў атрымаў летась за высокае выканаўчае майстэрства, прапаганду народнай песеннай спадчыны.

Спачатку гэта быў калектыў "Судкачанка", які ў 2000 годзе арганізаваў Валерый Церашкоў. У яго рэпертуары пераважалі старадаўнія абрадавыя песні, прыпеўкі. Кіраўніцтва мясцовага сельгаспрадпрыемства "Судкова" заўсёды ахвотна запрашала самадзейных артыстаў на святкаванне самых важных хлебаробскіх падзей. З часам папулярнасць ансамбля ўзрасла, спявацц у ім жадалі жыхары навакольных вёсак, і нават райцэнтра. Калі да іх далучыліся самадзейныя артысты з вёскі Барысаўшчына, то з'явілася новая гучная назва "Песні над Палессем".

Група спевакоў надзвычай зладжаная. Нягледзячы на справы, хатнія клопаты, узрост, яны бяруць актыўны ўдзел ва ўсіх культурна-масавых мерапрыемствах, якія праходзяць у Хойніцкім раёне. Звонкія галасы палешукоў гучаць падчас святкавання Дзён вёсак, на канцэртах, уздымаюць настрой, ім заўсёды рады.

**Клаўдзія БОСАК, Хойніцкі раён**

Нашы каштоўнасці

**Раіса МАРЧУК**

# Прэтэндэнт на ўключэнне

**Традыцыя шапавальства як гісторыка-культурная каштоўнасць Беларусі можа быць уключана ў Спіс нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА.**

Шапавальства (ручная вытворчасць валёнак) асабліва распаўсюджана ў Дрыбінскім раёне Магілёўскай вобласці. Шапаваламі, ці картушнікамі, называлі людзей, якія валодалі майстэрствам валяння і перадалі свае навыкі праз пакаленні. Аднымі з найпрацейшых валяных вырабаў былі мячыкі для гульні, якія дзятва рабіла, пасвячы кароў.

— Са старажытных часоў выкарыстоўвалі лямец для вырабу конскай збруі, шапак-магерак, капелюшоў, рукавіц. Прынамсі, у Бярэсці падчас археалагічных раскопак культурнага пласта XII — XIII стст. знайшлі валяную шапку і вусцілку, — распавяла старшыня грамадскага аб'яднання "Адпачынак у вёсцы" Валерыя Кліцунова. — А вось выраблялі абутак з воўны — валёнкі, ці валенцы, — пачалі ў XVIII ст. Спачатку іх насілі толькі заможныя сяляне, а з пачатку XX ст. яны сталі больш дэмакратычным абуткам.

Воўна, бадай, самы экалагічна чысты і цёплы матэрыял. Сёння назіраецца сапраўдны лямцавы "бум", у тым ліку і ў Беларусі. На гэтай хвалі натуральна абудзілася цікавасць да традыцыйнага шапавальскага рамяства. Дарэчы, усе інструменты, прылады, гатункі воўны, якія выкарыстоўваліся ў шапавальскай справе, і традыцыйныя вырабы з воўны шырока прадстаўлены ў Дрыбінскім гісторыка-этнаграфічным музеі. У ім дзейнічае аматарскае аб'яднанне "Шапавал", якое займаецца вывучэннем і захаваннем унікальнага рамяства.

— Сёлета беларускую традыцыю вырабу валёнак Міністэрства культуры Беларусі будзе прапаноўваць уключыць у спіс Сусветнай нематэрыяльнай спадчыны ЮНЕСКА, — зазначыла Валерыя Кліцунова. — Раней у гэты спіс увайшоў беларускі абрад "Калядныя цары", які захаваўся ў Капыльскім раёне. У будучым для ўключэння ў спіс Сусветнай нематэрыяльнай спадчыны ад Беларусі мяркуецца прапанаваць традыцыю вытворчасці лапцяў, кулінарны фестываль "Мотальскія прысмакі" (як найлепшая практыка), калядную гульню "Жаніцьба Цярэшкі" і іншыя нематэрыяльныя каштоўнасці, якія ўваходзяць у спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі.

Афарызм

*І кожны міг сябе я пазнаю*
*Часцінкай злітаю вялікага сусвету.*

**Якуб КОЛАС**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:** 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:** галоўны рэдактар — 284-66-73; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:** публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04; аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71; бухгалтэрыя — 284-66-72; Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2869
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 09.02.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 622
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686